Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 16 (4867) 22 красавіка 2016 г.


Нефармальная сустрэча 4


Арт-тэрапія… ад Бядулі 7


Сучасная правакацыя 12


«Скінуцца» на спектакль 13


Чарнобыль. 30 год 16

# Наш Пане Каханку

## З «маскай» і без

**Народны артыст Беларусі, народны артыст СССР Расціслаў Янкоўскі адзначаны спецыяльнай узнагародай на цырымоніі ўручэння расійскай нацыянальнай тэатральнай прэміі «Залатая маска». Прэмія Саюза тэатральных дзеячаў Расіі «За выдатны ўнёсак у развіццё тэатральнага мастацтва» сёлета прысуджана Расціславу Іванавічу Янкоўскаму, а таксама такім выдатным асобам тэатра, як Леў Додзін, Юрый Саломін, Барыс Эйфман, і іншым. Артыст тэатра і кіно Расціслаў Янкоўскі з 1957 года жыве ў Мінску, яго творчы лёс звязаны з Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатрам імя Горкага, дзе шмат паспяховых пастановак з яго ўдзелам. Некаторыя спектаклі пастаўленыя ў разліку «на Янкоўскага», напрыклад, «Вечнасць на дваіх», які будзе паказаны 24 красавіка.**



Фота Яўгена Залужнага.

# Мастакі і Віцебшчына

## Сусветна вядомая сваімі традыцыямі школа задае тон у сучаснасці

**У Віцебскай абласной бібліятэцы імя Леніна — адразу дзве падзеі. Гэтымі днямі гасцям кніжніцы прапанавалі прэзентацыю камбінаванай базы дадзеных «Мастакі Віцебшчыны» і адкрыццё мастацкай выстаўкі «Пад зорным небам».**

Камбінаваная база дадзеных хутка будзе даступная наведвальнікам сайта бібліятэкі. У гутарцы з карэспандэнтам БелТА намеснік дырэктара Вольга Камендантава патлумачыла: аснова базы дадзеных — матэрыялы пра жыццё і творчасць мастакоў Віцебскай абласной арганізацыі Беларускага саюза мастакоў, якія працуюць у жывапісе, графіцы, скульптуры, дэкаратыўна-прыкладным мастацтве, інсталяцыі, а таксама мастацтвазнаўцаў, фотамастакоў. База вядзецца на трох мовах — рускай, беларускай і англійскай. Матэрыялы абнаўляюцца рэгулярна: ёсць інфармацыя ўжо па 144 персаналіях. Па меркаванні кіраўніцтва кніжніцы, база дадзеных можа зацікавіць настаўнікаў, краязнаўцаў, гісторыкаў… Увогуле ўсіх, хто захапляецца мастацтвам.

Пры падрыхтоўцы выкарыстаныя як бібліяграфічныя, так і паўнатэкставыя матэрыялы, фотадакументы з фондаў бібліятэкі, абласной арганізацыі Беларускага саюза мастакоў, а яшчэ — асабістых архіваў творцаў, як нашых сучаснікаў, так і тых, хто ўжо пайшоў з жыцця.

Дарэчы, «Мастакі Віцебшчыны» — не адзіная камбінаваная база дадзеных, створаная па ініцыятыве бібліятэкі. На сайце ўстановы даступныя і іншыя, у асноўным краязнаўчай скіраванасці, такія як «Прыдзвінскі бок: гісторыя і сучаснасць», «Дарогамі вызвалення Віцебшчыны», «Афганістан. Без права на забыццё». Акрамя таго, сёлета запланаваная распрацоўка інструментара і збор матэрыялаў для базы дадзеных «Чалавек года Віцебшчыны».

## Пункцірам

✔ Выстаўка работ сучасных беларускіх мастакоў пройдзе ў чэрвені ў Пекіне. Паводле генеральнага дырэктара Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі Уладзіміра Пракапцова, экспазіцыя фарміруецца з калекцыі Нацыянальнага мастацкага музея і будзе ўключаць каля 50 работ сучаснікаў. Выстаўка, якая пройдзе ў Нацыянальным мастацкім музеі Кітая, будзе прымеркавана да 25-годдзя суверэнітэту Беларусі і аб'яўленага ў нашай краіне Года культуры. Мяркуецца, што ў будучым годзе кітайскія партнёры правядуць акцыю ў адказ і арганізуюць выстаўку ў Мінску.

✔ За вялікі ўнёсак у развіццё міжнароднага культурнага супрацоўніцтва народныя артысты Беларусі і СССР кампазітар Ігар Лучанок і харэограф Валянцін Елізар'еў узнагароджаныя медалём ЮНЕСКА «5 кантынентаў». Рашэнне аб узнагароджанні прынята 21 сакавіка генеральным дырэктарам ЮНЕСКА Ірынай Бакавой. Урачыстая цырымонія ўзнагароджання адбудзецца сёння ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі.

✔ Новы праект Беларускага тэлеграфнага агенцтва — фотавыстаўка «Чарнобыль. Праз 30 гадоў», падрыхтаваны пад патранатам Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, прысвечаны адначаленню і новаму жыццю рэгіёнаў краіны, якія сутыкнуліся з наступствамі аварыі на ЧАЭС. Праект — даніна павагі ўсім, хто зрабіў унёсак у адраджэнне роднай зямлі. Экспазіцыя змяшчае каля 50 здымкаў. Унікальныя чорна-белыя і каляровыя кадры, зробленыя ў перыяд з 1986 года па 2016 год, распавядаюць пра тых, дзякуючы каму многім раёнам Беларусі было падорана новае паўнавартаснае жыццё.

✔ У Мінску 11-12 мая Парламенцкім Сходам Саюза Беларусі і Расіі будзе праведзена 45 пасяджэнне пастаянна дзеючага семінара на тэму «Агульная інфармацыйная прастора Саюзнай дзяржавы». Да ўдзелу запрошаны парламентарыі, прадстаўнікі міністэрстваў і ведамстваў, акадэмій навук, даследчых інстытутаў і цэнтраў, а таксама буйных СМІ абедзвюх краін. Удзельнікі семінара наведаюць ХІ Беларускі міжнародны медыяфорум «Партнёрства ў імя будучыні».

✔ З 18 па 24 красавіка Беларускае радыё праводзіць юбілейны тыдзень у гонар 130-годдзя з дня нараджэння Змітрака Бядулі. Аматары літаратуры ўжо пачулі радыёпастаноўку «Мурашка-Палашка» па аднайменнай вершаванай казцы, кампазіцыю «Пад родным небам», складзеную з вершаў Змітрака Бядулі, апавяданні і многае іншае. Сёння ў «Тэатры Беларускага радыё» прагучыць радыёспектакль «Салавей» паводле аднайменнай аповесці; а ў суботу-нядзелю слухачоў чакае інсцэніраваная казка «Сярэбраная табакерка».

✔ Нацыянальны каларыт стане лейтматывам конкурсу «Міс Беларусь-2016». Тэма беларускай мовы, культуры, гісторыі будзе прысутнічаць на ўсіх этапах мерапрыемства, якое праходзіць у краіне раз на два гады. Нацыянальны аспект будзе заўважны і ў фотасесіях, а падчас дэфіле гледачы пабачаць прыгажунь у тым ліку ў нацыянальных строях. Вынікі спаборніцтваў з беларускім акцэнтам станучь вядомыя 6 мая, калі адбудзецца фінальнае шоу.

## Знята!

# Разбурыць стэрэатып,

## прагладаючы стужкі маладых кінематаграфістаў

Фестываль кароткаметражнага кіно «Незалежны позірк» з 28 красавіка па 1 мая будзе праходзіць у сталічным кінатэатры «Дом кіно». Прадстаўленыя ў кінапраграме фестывалю фільмы зняты не на дзяржаўных кінастудыях, а падрыхтаваны незалежнымі маладымі рэжысёрамі.

Па словах куратараў праекта, фестываль кароткага метра «Незалежны позірк» створаны з канцэпцыяй разбурыць стэрэатып перакананых беларусаў аб простасці і занядбанасці айчыннага кінематографа.

Значную частку праграмы складаюць кінастужкі беларускага конкурсу кінафестывалю «Лістапад», ацэненыя беларускімі і заходнімі кінакрытыкамі як прарыў і перспектыва айчыннага кінематографа. Сярод іх — фільмы «Адной крыві» Мітрыя Сямёнава-Алейнікава, «Сапраўдная амерыканка» Дар'і Жук, «Баба, Ваня і каза» Дар'і Юркевіч, «ОБНЦБНЧА» Максіма Лушчыка. Будуць дэманстравацца і новыя, яшчэ ні разу не паказаныя публіцы кінакарціны: гісторыя рамантычнага кахання, «Ро і Дж» Яўгена Лыткіна і Максіма Малахава, назва якой ужо выклікае пэўныя асацыяцыі (дарэчы, фільм падрыхтаваны пры дапамозе краўдфандынгу), фільм Арцёма Лобача «Бліжэй, чым ты думаеш» пра складаныя ўзаемаадносіны дзяцей з бацькамі і наступствы гэтых складанасцей, кінастужка пра Чарнобыльскую катастрофу «Лічыльнік шчасця» Ігара Чышчэні, зняты ў межах праекта *«Kinosprint»*.

Многія рэжысёры, якія ўдзельнічаюць у фестывалі, — прадстаўнікі розных кінашкол. Яны атрымалі адукацыю не толькі ў Беларусі: вывучалі кінаіндустрыю ў Францыі, Расіі, Польшчы, ЗША. Але ж творчасць сваю развіваюць менавіта на радзіме. Ствараючы сур'ёзныя, рэалістычныя карціны, яны імкнуцца папулярызаваць, зацвердзіць кароткі метр як моцны, варты асобнай увагі жанр у айчынным кіно.

У дзень адкрыцця фестывалю «Незалежны позірк» на сцэне «Дома кіно» рэжысёры фільмаў самі прадставяць карціны, падрабязна распавядуць пра ідэі, сэнсы сваіх праектаў і адкажуць на пытанні гледачоў. На прэм'еры выступіць і ўдзельнікі нацыянальнага адбору конкурсу «Еўрабачанне-2016» — гурт *«NAVI»*, чыя песня стала саўндтрэкам да аднаго з фільмаў.

**Вікторыя АСКЕРА**

## Традыцыі

# «Лявоніха» на дзіцячы лад

## Сталічныя школьнікі асвойваюць народныя танцы

Конкурс беларускага народнага танца «Ветразь» быў заснаваны год таму ў Цэнтры дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі «Ветразь» у Мінску. Сёлета прайшоў другі раённы конкурс, аўтарам і кіраўніком праекта з'яўляецца вядомы этнахарэограф, лаўрэат прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва Мікола Козенка. Конкурс праходзіў у рамках IX Рэспубліканскага фестывалю фальклорнага мастацтва «Берагіня», які ладзіцца дзеля захавання і адраджэння нематэрыяльнай культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь.



Выступленне танцавальных пар ацэньвалася па наступных крытэрыях: веданне кампазіцыі танца, захаванне мясцовага танцавальнага стылю, музычнае выкананне, веданне народнага нацыянальнага этыкету, наяўнасць касцюмаў, якія адпавядаюць асаблівай мясцовай традыцыі. Дзеці розных узростаў паказвалі танцы па-рознаму. У малодшых «Полька», «Мікіта», «Лявоніха», «Какетка» атрымлівалася некалькі наіўнымі, з ненагіраным імпэтам, у больш дарослых — з удасканаленасцю, упэўненасцю. Былі прадстаўлены танцы і з нязвыклымі назвамі: «Картузэ», «Мальвіна», «Матылёк».

Намеснік старшыні Рэспубліканскага грамадскага савета па справах культуры і мастацтва пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь, член Нацыянальнай камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА Анатоль Бутэвіч адзначыў: «Прыемна бачыць столькі зацікаўленых удзельнікаў гэтага незвычайнага свята, што я пераканаіны: нашай культуры наканавана вялікая будучыня. Мне ўяўляецца, што наша дзяржаўнае дрэва вельмі магутнае, яно мае свае карані — гэта наша гісторыя, нашы традыцыі, тое, што заклалі нашы бацькі. А крона дрэва — гэта вы, моладзь, наша будучае пакаленне, якое будзе зберагаць традыцыі».

**Дар'я ШЛАПАКОВА**

## Гастролі

# Абмен казкамі

### ажыццявілі Беларускі дзяржаўны і Брэсцкі тэатры лялек

Два моцныя айчынныя тэатральныя калектывы прадстаўляюць маленькім гледачам па адным з лепшых спектакляў цяперашняга рэпертуару.

На сцэне Брэсцкага тэатра лялек мінчане паказваюць казку «Кот у ботах» рэжысёра Уладзіміра Грамовіча. Адна з найбольш вядомых казак французскага пісьменніка Шарля Пяро была напісана яшчэ ў XVII стагоддзі. Але і праз доўгія часы гісторыя пра хітрага, прагматычнага ката, які дзякуючы імгненнай хватцы дапамог свайму гаспадару атрымаць усе неабходныя кампаненты жыцця і стаць шчаслівым, здольная дынамікай і сюжэтам захапіць маленькіх гледачоў і выклікаць цікавасць у дарослых, бацькоў.

Брэсцкі ж тэатр лялек у сталіцы дэманструе казачны дэтэктыў «Прыгоды Касперля і Сепеля», пастаўлены па матывах п'есы «Разбойнік Хотцэнплотц» нямецкага дзіцячага пісьменніка Отфрыда Пройслера. У беларускім варыянце спектакля прафесійнага рэжысёра Аляксандра Янушкевіча героі адыходзяць ад класічных вобразаў: яны больш сучасныя, эмацыянальныя. Але сюжэт пры гэтым не губляецца. Як і ў кнізе, адважныя сябры Касперль і Сепель змагаюцца з небяспечным разбойнікам, трапляючы ў складаныя, авантурныя сітуацыі.

Абменныя гастролі паміж беларускімі тэатрамі — важны і карысны працэс. Аматары тэатральнага мастацтва атрымліваць асалоду ад разнастайнасці пастановак, параўноўваюць стылі, кірункі тэатраў, адкрываюць новыя пастаноўкі, фарміруюць тэатральны густ. Гастролі тэатраў з дзіцячымі спектаклямі таксама неабходныя, каб малыя з дзяцінства разумелі і любілі розны тэатр.

**Вікторыя АСКЕРА**

## Акцыя

# Па адкрыцці

### навуковыя — ад «Бібліяночы-2016»

Упершыню пяць навуковых бібліятэк арганізоўваюць тэматычныя пляцоўкі.

Ноч з навукай у Цэнтральнай навуковай бібліятэцы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі прапануе ўгледзецца ў самога чалавека, напрыклад, падчас лекцыі пра дзіўныя магчымасці дыягностыкі ў наш час і далей. Тэму будучыні падтрымае і незвычайнае футурыстычнае шоу ад тэатра «Элементаль». Інтэрактыў, майстар-класы з творчым і навуковым падыходам.

Бібліятэкі і шоу — рэчы сумяшчальныя. Навуковая бібліятэка БНТУ запрашае на ноч музыкі і агню *Music on Fire*. Музыка ад беларускіх музыкантаў і фаер-шоу.

Фундаментальная бібліятэка БДУ робіць ухіл на гастранамічную тэматыку (бо час вячэры?) з праглядам фільма «Гісторыя беларускай кухні» і размовай з яго стваральнікамі. Абяцаны пачастунак — аўсяны кісель. Містыка і «Карусель жахаў» чакае наведвальнікаў Рэспубліканскай навуковай медыцынскай бібліятэкі, лекцыя «Катастрофы чалавечага цела» і чытанні апавяданняў Эдгара По з запрошаным госцем. Пра тое, што бібліятэка найперш захоўвае кнігі, нагадае навукова-педагагічная бібліятэка. Сумесна з супольнасцю «Бясплатны кірмаш Мінск» запланавана пляцоўка па свабодным абмене кнігамі.

22 красавіка з 19 да 23 гадзін буйная акцыя ў падтрымку чытання праходзіць не толькі ў Беларусі — у ёй удзельнічаюць бібліятэкі Расіі, Украіны.

**Марыя АСІПЕНКА**




# О, спорт, ты — экскурсія…

## На шпацыр разам з гідам — бясплатна

**У найбліжэйшыя выхадныя, 23 і 24 красавіка, у розных гарадах краіны пройдуць экскурсіі, на якія патрапіць можа кожны. Фэст экскурсаводаў прапаноўвае паглядзець іншымі вачыма на аб'екты, вуліцы, помнікі і будынкі, якія здаюцца звыклымі, таму мала цікавымі. Можа быць, толькі з-за таго, што іх гісторыя схаваная за гадамі і нават стагоддзямі? Унікальнасць губляецца за ўтылітарнасцю? А пра прыгажосць трэба меркаваць, зыходзячы з кантэксту.**

Міжнародны камітэт ІКАМОС прапанаваў у 2016 годзе прыглядзецца да помнікаў спорту (падтрымка фэсту Міністэрствам спорту і турызму Беларусі якраз дарэчы). Тут можа быць успамін пра колішнія (за савецкім часам) падзеі — на маршруце «Мішка ў Мінску, ці Гісторыя пра тое, як горад прымаў Алімпіяду». Але ёсць у нас аб'екты спорту, якія сталі помнікамі, а ёсць спартыўныя будынкі і ўстановы, па якіх цікава прайсціся з экскурсіямі.

«Сёлета на фэсце будзе больш за 90 экскурсій па Мінску і больш за 70 — па рэгіёнах. Наведнікаў чакаюць экскурсіі на любы густ: архітэктурныя, гістарычныя, тэхналагічныя, мастацкія, прыродазнаўчыя», — адзначаецца ў паведамленні Цімафея Акудовіча, каардынатара «Фэсту экскурсаводаў».

Маршруты распрацаваны не толькі ў сталіцы, але ў больш чым 10 гарадах краіны. Вядома, у Мінску экскурсій найбольш, але ў кожнай з абласцей складзена свая праграма. Прыдуманы новыя формы, як «ажывіць» экскурсіі.

І самі экскурсіі можна праводзіць па-спартыўнаму: нават на роварах. Ніколі не здагадаецеся, што велаэкскурсія можа пазнаёміць з «Жыхарамі мінскага неба: монументальнай скульптурай на дахах сталіцы». Ці яшчэ можна праехаць з велаэкскурсіяй па Лошыцкім парку, і нават з гідам, які размаўляе па-іспанску. Ёсць вандроўкі і на італьянскай мове. Руская і беларуская — асноўныя мовы экскурсій фэсту, які разлічаны ў першую чаргу на нашых суграмадзян: мы цікавімся падарожжамі па іншых краінах, але часам не здагадваемся, што цікавага ёсць дома. Дзеля таго, каб падштурхнуць да развіцця ўнутраны турызм, нашы гіды распрацавалі экскурсіі з анімацыяй і нават гістарычныя квэсты. Багатае ў нас мінулае, калі меркаваць па назве аднаго маршрута: «10 000 гадоў гісторыі Беларусі». Гісторыю можна зразумець праз міфалогію (гэта таксама прапануецца). У ёй можна знайсці шмат захапляльнага, калі правесці раніцу з птушкамі ці прайсціся па зорным небе (ёсць магчымасць!), адшукаць сакуру. І стаць актыўным у «ЗаЧытанні…» — цікавы праект, які прапаноўвае квэст па навуковай бібліятэцы. Якая багатая фантазія ў беларускіх гідаў!

Іх ужо шмат — гэта цэлая супольнасць аматараў, краязнаўцаў, зацікаўленых асоб, спецыялістаў, апантаных людзей, якія гатовыя працаваць дзеля асветных мэтаў. Яны адчуваюць патрэбу ў камунікацыі і ўдасканаленні, таму для іх сёлета прадумана адукацыйная праграма і ствараецца пляцоўка ў інэрнэце дзеля лепшай камунікацыі.

Фэст экскурсаводаў упершыню прайшоў у Беларусі ў 2009 годзе. Ён прымеркаваны да Міжнароднага дня помнікаў і гістарычных мясцін, які адзначаецца 18 красавіка. Ініцыятыва скіраваная на тое, каб звярнуць увагу на помнікі гісторыі і культуры, напоўніць іх жыццём, паказаць, чым багатая краіна, падкрэсліць адметнасць айчыннай культуры. Сёлета экскурсіі пройдуць у Брэсце, Баранавічах, Пінску, Віцебску, Полацку, Мёрах, Глыбокім, Гомелі, Гродне, Лідзе, Магілёве, Барысаве, Бялынічах, Маладзечне, Пухавічах, Нясвіжы, Тальцы…

**Марыя АСІПЕНКА**

# Пешаходны Мінск

## Верхні горад збіраюцца ператварыць у цэнтр вулічнага жыцця

**Пра гэта на сустрэчы з журналістамі паведаміў Ігар Карпенка, намеснік старшыні Мінгарвыканкама:**



— Часта кажуць: «Мінск — гэта горад аднаго дня». Мы хочам зрабіць так, каб тут можна было затрымацца хаця б дні на тры. Але адны помнікі, якія мы аднаўляем, не здольныя затрымаць турыстаў надоўга. Каб гэтага дасягнуць, трэба стварыць вакол іх нейкія падзеі, перформансы, сустрэчы. Напрыклад, ёсць ратуша, якая выконвае двайную функцыю: музея і адміністратыўнага будынка. У ёй няма такой экспазіцыі, як у Нясвіжскай ратушы. Таму патрэбны новыя крэатыўныя формы. Каб стварыць гістарычны дух, мы хочам зладзіць шэраг перформансаў. Напрыклад, можа разыгрывацца «Слова пра паход Ігаравы», наданне Магдэбурскага права. Гэта будзе ствараць эфект пагружэння ў гісторыю. Ужо сёлета адкрыем ля ратушы помнік Вінцэнту Дуніну-Марцінкевічу і Станіславу Манюшку, заснавальнікам беларускай оперы. Скульптура з'явіцца насупраць гатэля «Еўропа», там, дзе і была калісьці пастаўлена опера.

Музычнае жыццё ў Верхнім горадзе вірue і ў наш час. У рамках прыватна-дзяржаўнага супрацоўніцтва прадоўжацца джазавыя суботы і «Класіка ля ратушы». Да гэтага праекта падключацца новыя структуры, у прыватнасці Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі. Саюз пісьменнікаў Беларусі адгукнуўся на прапанову зрабіць паэтычны літаратурны дворык у Верхнім горадзе. Разглядаецца пытанне гандлю вырабамі рамеснікаў, выступлення вулічных музыкантаў: замест таго, каб іграць стыхійна ў пераходах, яны маглі б мець пастаяннае месца для сустрэч са слухачамі.

Але калі гаворка пра прадстаўленне Мінска як горада з гісторыяй, то ўяўленне пра яго жыццё ў мінулыя два стагоддзі дапаможа скласці Лошыцкая сядзіба. У гарадскіх улад ёсць канцэпцыя развіцця гэтай гісторыка-культурнай зоны на найбліжэйшыя 10 — 15 гадоў. Яна магла б стаць пастаянным рысталішчам для клубаў гістарычнай рэканструкцыі, што спрыяла б паглыбленню наведвальнікаў у гісторыю.

**Марыя АСІПЕНКА**

## Дайджэст

• Пулітцараўскую прэмію атрымаў в'етнамец В'ет Тан Нгуен за раман «*The Sympathizer*» (літ. «Той, хто спачувае»). Гэта дэбютная работа пісьменніка, якую часопіс *The New York Times* прызнаў бестселерам 2015 года. Раман, названы «шматслаёвай імігранцкай гісторыяй», распавядае пра чалавека, што жыве ў ЗША і ў якім на фоне вайны ў В'етнаме сапернічаюць адданасць камуністычнай ідэі і вернасць таварышам па арміі. Пулітцараўская прэмія ўручаецца штогод з 1917 года. Сёлетняя цырымонія стала сотай па ліку.

• Брытанская Бібліятэка (Лондан) падрыхтавала экспазіцыю «Шэкспір у дзесяці актах», прымеркаваную да святкавання 400-годдзя з дня смерці драматурга. Галоўным экспанатам з'яўляецца адзіны захаваны рукапіс п'есы, які належыць самой руцэ Шэкспіра. Сярод сюрпрызаў — касцюмы з пастаноўкі «Сон у летнюю ноч», якія насіла актрыса Вівьен Лі ў вобразе Тытаніі, а таксама чэрап — падарунак французскага класіка Віктора Гюго таленавітай Сары Бернар у гонар яе ўдзелу ў «Гамлеце» 1899 года. Выстаўка працягнецца да 6 верасня 2016 года.

• Прэмію Астрыд Ліндгрэн атрымала амерыканская пісьменніца Мэг Розаф, якая жыве ў Лондане. Пісьменніца дэбютавала ў 2004 годзе, самы вядомы яе раман — «Як я цяпер жыву». На думку журы, яе кнігі «звернутыя як да пачуцця, так і да розуму». Акрамя Мэг Розаф, на ўзнагароду прэтэндавалі 215 дзіцячых пісьменнікаў, ілюстратараў і арганізацый з 59 краін. Цырымонія ўзнагароджання адбудзецца ў Стакгольме ў маі, а ўласна прэмія складае 5 млн шведскіх крон.

• Супрацоўнікі Гарадскога турысцка-інфармацыйнага бюро Санкт-Пецярбурга распрацавалі спецыяльны турыстычны маршрут, прысвечаны новай экранізацыі рамана Льва Талстога «Вайна і мір». У серыяле *BBC* баль Наташы Растовай праходзіць у Екацярынінскім палацы, а Гатчынскі палац выступае то ў ролі дома П'ера Бязухава, то сядзібы князёў Балконскіх. Цяпер месцы здымкаў адкрытыя для турыстаў. Літаратурная экскурсія пачынаецца каля Мала-Канюшаннага моста ў цэнтры горада і завяршаецца ў музеі-сядзібе Гаўрыіла Дзяржавіна. Яна ўключае наведванне Зімовага і Юсупаўскага палацаў, Рускага музея, Міхайлаўскага замка і пецярбургскіх прыгарадаў.

• На аўкцыёне ў Нью-Ёрку пайшлі з малатка рукапісныя чарнавікі Барыса Пастарнака да двух раздзелаў «Доктара Жывага». Акрамя таго, новага ўладальніка знайшоў рэдкі асобнік кнігі XIX стагоддзя з творамі Антона Чэхава. Асаблівую каштоўнасць зборніку надае аўтограф пісьменніка, які падарыў кнігу знаёмаму — прататыпу аднаго з герояў твора, што ўвайшоў у кнігу. Рарытэт прададзены за 19 тысяч долараў. Але самым дарагім лотам аўкцыёну стаўся рукапіс аднаго з апавяданняў Артура Конан Дойла: за яго заплацілі 269 тысяч долараў.

• У бібліятэцы аднаго са старадаўніх замкаў Вялікабрытаніі знойдзеная копія першага зборніка п'ес Уільяма Шэкспіра, тыраж якога складаў усяго 700 асобнікаў. Трохтомны літаратурны трафей быў выдадзены праз сем гадоў пасля смерці вялікага драматурга дзякуючы акцёрам шэкспіраўскай трупы. У зборнік увайшлі п'есы «Бура», «Дванаццатая ноч» і «Макбет». На сёння вядомыя 200 копій выдання, і некаторыя з іх у маі гэтага года будуць выстаўленыя на аўкцыёне (кошт аднаго асобніка ацэньваецца ў 5 мільёнаў долараў).

# Жыць культурай

**У Міжнародны дзень культуры ў Лошыцкай сядзібе адбылася сустрэча ў нефармальнай абстаноўцы прадстаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі з міністрам культуры Рэспублікі Беларусь Барысам Святловым, у выніку якой у Лошыцкім парку, які налічвае больш як 36 тысяч дрэў, на адну ліпу стала больш. Міністр культуры разам з удзельнікамі сустрэчы пасадзіў невялічкае дрэва на ўязной алеі ў гонар бягучага Года культуры і патлумачыў, як будзе развівацца культура нашай краіны:**



*Міністр культуры Барыс Святлоў адказвае на пытанні журналістаў.*

## ЧАГО ЧАКАЦЬ АД ГОДА КУЛЬТУРЫ?

— Цікавасць да правядзення Года культуры ў Беларусі была даўно. Тое, што нас абагналі калегі з Расіі, нічога не значыць. Калі мы былі ўпэўнены, што Год культуры будзе праводзіцца, то пачалі разглядаць розныя дакументы, цікавіцца расійскім вопытам. Увогуле прыйшлі да выніку, што Год культуры складаецца з календара: шмат мерапрыемстваў базіруецца на юбілеях. Што тычыцца асаблівасцей нашай канцэпцыі ў адрозненні ад расійскай, мы пайшлі па шляху, які не звузіў паняцце культуры толькі да паняцця «мастацкая культура». Тое, што сёння адбываецца на вуліцах беларускіх гарадоў, у культурных установах, у нашай творчасці, — вынік акцэнтавання ўвагі на культуры ў шырокім сэнсе і высокі ўзор, якога трэба дасягнуць у любой сферы, чым бы чалавек ні займаўся: ці гэта культура яго асабістых паводзін, ці культура вытворчасці, ці тая ж мастацкая культура. Калі трыццаць першага снежня скончыцца Год культуры, хацелася б, каб ніхто не заўважыў, што ён падышоў да канца. Каб народ працягваў жыць культурай.

## ВУЧЫМСЯ САМАСТОЙНАСЦІ

— Што тычыцца заробкаў работнікаў сферы культуры, пераглядзець іх мы спрабавалі і да Года культуры, займаемся гэтым сёння і будзем займацца пасля. Зараз павысіць заробкі менавіта з бюджэтных сродкаў мы не зможам. Але я не раз пачынаў размову пра магчымасць зарабляць грошы самім установам культуры і за кошт гэтага падымаць заробкі сваім супрацоўнікам. Апошні час на слыху слова «аптымізацыя», але не ўсе разумеюць, што гэта ўвогуле такое. Гэта працэсы, якія павінны прывесці да павышэння заработнай платы ці стварыць умовы для таго, каб установы культуры маглі зарабіць іх самі.

## РЭАЛІЗАЦЫЯ ДЗЯРЖПРАГРАМ

— Каля 30 трыльёнаў беларускіх рублёў прадугледжана на рэалізацыю мерапрыемстваў дзяржаўнай праграмы «Культура Беларусі» на 2016 — 2017 гады. Гэта сума складаецца са сродкаў рэспубліканскага бюджэту (5 трыльёнаў), мясцовых бюджэтаў (20 трыльёнаў) і асабістых сродкаў культурных устаноў (5 трыльёнаў). Зыходзячы з апошняга пункта, можна гаварыць, што культура — ужо не тая галіна, якая чакае дапамогі ад дзяржавы, а якая вучыцца зарабляць і сама. У структуры расходаў, вызначаных на гэтую сферу ў 2015 годзе, дваццаць працэнтаў займалі сродкі, якія зарабілі самі ўстановы культуры. У выніку дынаміка з году ў год узрастае, працэнт уласных сродкаў у долі выкарыстаных на культуру расце.

Дзяржаўная праграма «Культура Беларусі» ўключае падпраграмы «Спадчына», «Мастацтва і творчасць», «Архівы Беларусі», «Беларусы ў свеце» і іншыя. Падпраграма «Спадчына» ўвабрала ў сябе неабходныя аб'ёмы работ датэрмінова завершанай дзяржаўнай праграмы «Замкі Беларусі».

## ВЯРТАННЕ СПАДЧЫНЫ

— Доўгі час пры Савеце міністраў існуе камісія па вяртанні нацыянальных культурных каштоўнасцей. Дзяржаўны ўзровень у гэтым напрамку дастаткова высокі: робіцца ўсё, каб прадумаць і стратэгію, і тактыку, як весці супрацоўніцтва з іншымі краінамі ў гэтым кірунку.

У 2012 годзе Міністэрства культуры стварыла спіс каштоўнасцей, якія знаходзяцца за межамі нашай краіны. Гэта вялікая работа, таму нельга гаварыць, што вяртанне спадчыны сёння — толькі прыватная ініцыятыва. Мы заключылі дамову з «Белгазпрамбанкам», які займаецца вяртаннем культурных каштоўнасцей. Сёння працуем над вяртаннем карцін мастакоў Парыжскай школы, набываем рэдкія выданні для Нацыянальнай бібліятэкі. Зноў-такі, усё набываецца не за дзяржаўныя грошы: мы знаходзім мецэнатаў, спонсараў, якія сябе нават не раскрываюць, і набываем тыя ці іншыя каштоўнасці, ганарыцца наяўнасцю якіх у краіне мы абавязаны.

Сёлета Міністэрства культуры вядзе перамовы з партнёрам — «Белгазпрамбанкам» наконт працягу вяртання гісторыка-культурных каштоўнасцей у віртуальным выглядзе. Так адбываецца таму, што не ўсе замежныя партнёры, нават ведаючы беларускую гісторыю, жадаюць штосьці вяртаць. Гісторыя так распарадзілася, што ўсё вярнуць немагчыма, ды ёсць пытанні міжнароднага права. Каб нам мець магчымасць дакранацца да гэтых каштоўнасцей, асабліва што тычыцца кніг, рукапісаў, вядзецца вялікая праца па алічбоўцы і факсімільным выданні — Скарыны, бібліятэкі Храптовічаў, бібліятэкі Сапегаў. Такім чынам, ёсць магчымасць зрабіць іх даступнымі шырокаму колу чытачоў.



*Сустрэча ў Лошыцкім парку стала сімвалічнай.*

## ЗАХАВАЦЬ ІНТАРЭСЫ ДЗЯРЖАВЫ

— У Беларусі налічваецца больш за 5000 аб'ектаў гісторыка-культурнай спадчыны розных катэгорый. Ёсць шэраг аб'ектаў, па аднаўленні якіх мы гатовыя супрацоўнічаць з прыватнымі інвестарамі. Галоўнае, каб пры рэканструкцыі яны захоўвалі інтарэсы дзяржавы. Толькі ў Мінскай вобласці ёсць каля сарака сядзіб, якія могуць быць перададзены ў прыватныя рукі. Але пры гэтым новыя ўласнікі павінны клапаціцца пра тое, каб аблічча помніка гісторыі адпавядала гістарычнаму і ўяўляла каштоўнасць. Але так бывае, што ўладальнікі сядзіб імкнуцца іх перарабіць ці прыстасаваць пад свае густы ці інтарэсы. Спяшаюцца з аднаўленчымі працамі, каб хутчэй атрымаць аддачу. Таму спрэчкі падчас рэканструкцый на гістарычных сядзібах не рэдкія. Узнікалі пытанні і па аднаўленні замка ў Любчы і сядзібы ў Воранава. Але дзяржава скіраваная на супрацоўніцтва і аказвае метадычную і кансультацыйную дапамогу.

## МУЗЕЙНАЕ ПЫТАННЕ

— Сёння Беларусь налічвае 152 адзінкі дзяржаўных музеяў, якія існуюць у межах галіны культуры. Што тычыцца прыватных музеяў, то іх падлічыць вельмі складана: толькі тры прыватныя музеі зарэгістраваныя ў дзяржаўны ўлік. Чым жа дзяржава можа дапамагчы прыватным музеям? Для таго каб атрымаць статус музея ў адпаведнасці з законам «Аб музейнай справе», трэба выканаць некаторыя ўмовы. Важна, каб музей мог змясціцца ў пэўным памяшканні і каб да яго стварэння быў навуковы падыход: трэба ведаць, што за артэфакты прадстаўлены, адкуль яны з'явіліся. На мой погляд, гэта грунтоўныя і асноўныя ўмовы пры разглядванні таго ці іншага збору калекцый як музейнага. Далёка не ўсе прыватныя калекцыі сёння можна назваць музейнымі. Што тычыцца дзяржаўнай дапамогі з арэндай памяшканняў, то тут трэба хадайнічаць, звяртаць увагу мясцовых улад, у якіх ёсць магчымасць пэўнага каэфіцыента арэнды. Канечне, фінансавай дапамогі ў гэтым пытанні мы аказваць не будзем, але ж у многіх астатніх рэчах гатовыя пайсці насустрач.

Я лічу, што зараз наступае росквіт музейнай справы. Сёння ў дзяржаўных альбо мясцовых музеях з'яўляецца шмат прыватных калекцый. Жыхары шматлікіх населеных пунктаў знаходзяць у сябе рэчы, якія, магчыма, маюць пэўную каштоўнасць. У выніку яны альбо самі пачынаюць займацца музейнай дзейнасцю, альбо аддаюць аб'екты ў мясцовыя музеі. Мы часта чуем, што ў нас бедная краіна і што тут усё знішчылі, звезлі ці на Захад, ці куды яшчэ. Аказваецца, што далёка гэта не так. У нас яшчэ ёсць шмат чаго схаванага, што можна паказаць свету як блізкаму, так і далёкаму.

## СТАСУНКІ З ТВОРЧЫМІ САЮЗАМІ

— У краіне існуюць творчыя саюзы, але раз-пораз у іх да дзяржавы ўзнікаюць пытанні: дапамажыце творчаму саюзу, не хапае грошай на існаванне. Можна на гэта грошы знайсці, але тут жа ўзнікае сумненне: а чым жа вы можаце дапамагчы дзяржаве? Далёка не заўсёды творчыя саюзы рэагуюць на прапановы дзяржавы станоўча: узяць на сябе пэўныя функцыі. Калі творчыя саюзы разлічваюць на падтрымку дзяржавы, то і дзяржава мае права ўскладаць на іх пэўныя сацыяльныя абавязацельствы. Мы думалі наконт таго, каб творцы не траплялі пад закон аб дармаедах. Каму, як не творчаму саюзу, лепей ведаць, ці прадстаўляе гэты чалавек творчую асобу, ці займаецца творчасцю? Вызначаць гэта — не функцыя міністэрства. Я лічу, што галоўная задача нашых творчых саюзаў — каб яны выконвалі ролю вызначэння мастацкага ўзроўню творчых з'яў у грамадстве: гэта рэдактура, крытыка. Сёння яны саступілі ўбок, і ўсё ўзяло на сябе міністэрства. Канечне, у нас працуюць кваліфікаваныя спецыялісты, якія могуць ацаніць любы твор мастацтва. Але ці наша гэта задача? Міністэрства павінна вызначаць стратэгію развіцця галіны. Ёсць канкрэтныя пытанні, над якімі могуць працаваць асобныя ўстановы, рэгіянальныя ўлады, тыя ж творчыя саюзы.

## РЭКАНСТРУКЦЫЯ «БЕЛАРУСЬФІЛЬМА»

— Рэканструкцыя кінастудыі «Беларусьфільм» павінна была скончыцца 31 снежня 2015 года. Але ў выніку складанага фінансавага становішча тэрміны канчатковай здачы аб'екта былі перанесены на снежань 2016 года. Цяпер зноў вызначаны новы тэрмін: канец 2017 года. Рамонтныя работы на кінастудыі вядуцца, але працэс нельга назваць стабільным. Калі ёсць фінансаванне — працы актывізуюцца, фінансаванне змяншаецца — працы сціхаюць. Няпростая сітуацыя складваецца і з аплатай работы будаўнікоў. Працаваць у доўг будаўнікі могуць да пэўнага моманту, па заканадаўстве няма магчымасць павялічваць доўг да бясконцасці. У мінулым годзе ўтварыўся доўг перад будаўнікамі каля дваццаці мільярдаў беларускіх рублёў, які пазней быў пагашаны. Сёлета будаўнікі ўжо працуюць у доўг, паколькі пэўны аб'ём работ неабходна завяршыць. Даводзіцца шукаць шляхі вырашэння няпростай сітуацыі, але ж усё роўна аб'ект дабудоўваецца, але больш павольнымі тэмпамі, чым хацелася.

## СТВАРЭННЕ МУЗЕЙНАГА КВАРТАЛА

— Рэстаўрацыйныя працы па стварэнні музейнага квартала пры Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі пры ўсіх цяжкасцях фінансавання ідуць інтэнсіўна. Сёння рэканструкцыя адбываецца ў двух будынках: на вуліцы Кірава і вуліцы Карла Маркса. Там вядуцца ўнутраныя работы: тынкоўка сцен, бетанаванне падлог, усталёўваюцца вокны. Корпус старога музея будзе злучаны галерэямі з новымі будынкамі. Функцыі ў гэтых будынкаў будуць розныя: захаванне каштоўнасцей, дэманстрацыйныя залы. Нягледзячы ні на якія цяжкасці, працы ідуць, і калі ўсё будзе добра, то праз 3 гады ў Мінску будзе новы музейны квартал.

**Вікторыя АСКЕРА,**
**фота Марыі Войцік.**

# Выклікі часу

## Колькі магчымасцей у пісьменніка быць актуальным?



Ганна КІСЛІЦЫНА

**Вельмі часта ў гаворках пра сучаснае мастацкае слова літаратары ўжываюць словы «актуальная літаратура» і «белліт». Гэтыя паняцці не сінонімы, але ў іх шмат агульнага.**

### ЦІ ГАТОВЫ ЧЫТАЧ?

Разуменне таго, што ёсць актуальная літаратура, дае шырока вядомая думка С. С. Аверынцава, які заўважыў, што кнігі бягучага літаратурнага працэсу дзеляцца ва ўяўленні чытача «не на добрыя і дрэнныя (па сваім мастацкім ўзроўні), а на неабходныя і на тыя, без якіх можна абысціся», прычым «кнігі неабходныя бываюць недасканалымі і наадварот». Актуальная літаратура — гэта якраз творы неабходныя, а калі гаварыць больш канкрэтна, то гэта сукупнасць мастацкіх твораў розных аўтараў і якасці, але блізкіх у падыходзе да адлюстравання новых праблем свядомасці. Творы актуальнай літаратуры востра, часам негатыўна ўспрымаюцца чытачом, які часта аказваецца не гатовы менавіта да фармальнай навізны выяўлення рэчаіснасці, але без іх гісторыя нацыянальнай літаратуры будзе выглядаць няпоўнай, бо менавіта яны замацоўваюць формы новай мастацкай мовы, пачынаюць новую творчую інерцыю. Вельмі розныя на першы погляд, творы гэтыя, тым не менш, валодаюць пэўнай агульнасцю структуры. Яна можа быць раскладзена на ўзаемазвязаныя планы шляхам аналізу, у працэсе якога выяўляюцца формы і паняцці новай мастацкай мовы. Такім чынам, актуальная літаратура — гэта не ўся сучасная літаратура, а толькі яе частка. Тое ж можна сказаць і пра паняцце «белліт», якое толькі на першы погляд выглядае недарэчным «абырвалгам».

> *Аднак ёсць і іншыя меркаванні. Расійскі даследчык У. Бандарэнка ў невялікім артыкуле «Актуальная літаратура» выступае супраць спроб «загнаць гэтае паняцце ў падполле авангарду альбо нейкай спецыялізаванай літаратуры».*

Мовазнаўца У. Кошчанка, разважаючы над тым, як у беларускай літаратуры ўзнікла гэтае скарачэнне, прывёў цікавую статыстыку: «Наш корпус дае некалькі вынікаў на запыт "белмова" і "белліт". Калі набіраем у Гугле "руслит", то маем 2960 вынікаў, "русяз" — 1630, "белмова" — 8530, белліт — недзе каля 1500 (з улікам "беллит"). Няма чаго казаць, што слова "русязычный" увогуле не існуе, як і "русмоўны", дарэчы. Калі ўзяць суадносіны з колькасцю насельніцтва і сферай ужывання, то карціна невясёлая выходзіць. Расейцы ўжываюць збольшага гэтыя скароты ў прыватных запісах, якія характарызуюцца гутарковай мовай, і ў назвах розных бібліятэк. У нас жа гэтыя словы шырока ўжываюць масмедыя і нават пісьменнікі ў сваіх творах».

Гэтая заўвага мовазнаўцы, пры ўсёй яе слушнасці, патрабуе ўдакладнення, бо скарачэнні «белліт» і «сучбелліт» звязаныя не столькі з моўнымі праблемамі, колькі з пытаннямі гісторыі і тэорыі літаратуры. Пачынаючы недзе з 2000-х гг. пісьменнікі і літаратуразнаўцы сапраўды актыўна сталі карыстацца гэтымі скарачэннямі ў сваіх мастацкіх і крытычных тэкстах. Напрыклад, праграма, прысвечаная сучаснай беларускай літаратуры на НЭТ-радыё, якую вяла крытык Ася Паплаўская, называлася «Сучбелліт». Сустракаецца гэтае паняцце і ў паэзіі. Так, Андрэй Хадановіч піша ў вершы «Дзесяць запаветаў маладых паэтаў»: «НЕ ЗАБІВАЙ сімпатычных герояў: // хопіць і тых, што празаік накроіў. // Лепей часцей беражы сучбелліт // клавішаю "*delete*"».

### УКРАІНСКАЯ ПРАКТЫКА

Нават гэты невялікі ўрывак паказвае, што слова «сучбелліт» мае не адмоўную, а хутчэй іранічную канатацыю. Трэба адзначыць, што з'яўленне такога кшталту скарачэння ў вершах Хадановіча выглядае невыпадковым: менавіта гэты аўтар мае найбольшыя дачыненні да сучаснай украінскай літаратуры, альбо да «сучукрліту». Калі на Беларусі нехта спрабуе знайсці ў скарачэнні момант непавагі да нацыянальнай мовы, то ўжыванне аналагічнага паняцця для літаратуразнаўцаў і крытыкаў Украіны — абсалютна нармальная практыка.

Напрыклад, чытаем у Вікіпедыі: «Пад паняццем "сучасная ўкраінская літаратура" найчасцей разумеюць сукупнасць мастацкіх твораў, якія былі напісаныя падчас здабывання Украінаю незалежнасці ад 1991 году да цяперашняга часу. Такое размежаванне абумоўлена адмiраннем пасля 1991 года агульнапрынятага для творцаў СССР стылю сацыялістычнага рэалізму і скасаваннем грамадзянскай цэнзуры. Прынцыповыя змены ва ўкраінскай літаратуры адбыліся яшчэ ў гады перабудовы (1985) і асабліва пасля Чарнобыльскай катастрофы (1986). Следствам большай свабоды, адкрытасці ўкраінскага грамадства да замежных уплываў і значна шырэйшых кантактаў з літаратурай іншых краін сучасная ўкраінская літаратура ў асноўным адрозніваецца ад савецкай і класічнай зваротам да забароненых тэм (Галадамор, сексуальнасць, наркотыкі, дэвіянтныя паводзіны і г. д.), выкарыстаннем новых стылістычных прыёмаў (постмадэрнізму, неаавангарду, ужыванне нецэнзурнай лексікі і суржыка), разнастайнасцю і змяшэннем жанраў, своеасаблівай эпатажнасцю, а таксама асэнсаваннем сацыяльных праблем і гістарычнай памяці. Тэрмін "сучасна українська література" часта скарачаецца як "сучукрліт" або "укрсучліт"».

Як ужо бачна з цытаты, скарачэнні нясуць не толькі згадку пра час, у які стваралася літаратура, але і маюць пэўную іранічную канатацыю, звязаную з тым, што скарачэнне слова «сучасны» для ўкраінцаў і беларусаў мае невыяўны, але ўсё ж негатыўны сэнс (чаго няма і не можа быць у сучаснай рускай літаратуры).

> *Актуальная літаратура — гэта якраз творы неабходныя, а калі гаварыць больш канкрэтна, то гэта сукупнасць мастацкіх твораў розных аўтараў і якасці, але блізкіх у падыходзе да адлюстравання новых праблем свядомасці.*

Выкарыстанне гэтых скарачэнняў у большасці выпадкаў — з'ява настолькі распаўсюджаная, што слова даўно прыняло нейтральную афарбоўку і займела шэраг вытворных. Негатыўную афарбоўку згаданыя скарачэнні маюць у пісьменнікаў старэйшага ўзросту. Можна згадаць словы слыннай украінскай пісьменніцы Ліны Кастэнка, сказаныя ёю на прэзентацыі кнігі Івана Дзюбы: «Я вярнулася ў літаратуру. Але ў якую? У УкрСучЛіт?» Кастэнка па-тлумачыць сваё стаўленне да слова наступным чынам: «Драма для паэта — працаваць на самоце цягам дваццаці гадоў дзеля будучыні, пасля прыйсці ў літаратуру, дзе ўсё змянілася… Мастацтва стала бізнесам, элітарны густ і эстэтыка заменены паняццямі «фармат», «мода». У новым часе шмат шуму, шмат самарэкламы, амбіцый, чужых шасцідзясятніцтву».

Схільныя да эпатажу ўкраінскія літаратуразнаўцы ў «Энцыклапедыі Драматыка» больш жорстка характарызуюць «сучукрліт». Але менавіта там сустракаем каментар, вельмі важны для разумення розніцы ў паняццях: «Перыяд сучаснасці ўкраінскай літаратуры звычайна вызначаюць ад пачатку 70-х гадоў і да нашых дзён. У анлайн-дыскусіях сучукрліт — гэта звычайна трохі больш вузкі перыяд, які пачынаецца прыблізна з 1985 года…»

### НОВАЙ МОВАЮ

На першы погляд, гэты артыкул дэманструе агульнае непрыняцце тых працэсаў, якія адбываюцца ў сучаснай украінскай літаратуры. Аднак відавочна, што гэта іранічнае стаўленне датычыцца не столькі саміх новых літаратурных павеваў, колькі да абывацельскага погляду на іх. Дасведчаныя ўкраінскія літаратуразнаўцы і крытыкі, узброеныя ведамі гістарычнага і тэарэтычнага характару, адпачатку разумеюць, што з'яўленне новай мовы літаратуры, той мастацкай мовы, якая адпавядае новай рэальнасці, не можа не выклікаць негатыўнай рэакцыі ў непадрыхтаванага чытача, і часцяком імітуюць стыль, які б адпавядаў разважанням гэтага патэнцыйнага чытача.

Іншым разам такое фальшывае абурэнне сучукрлітам выклікае проста недаўменне. Аднак вывучэнне кантэксту не дае нагоды ўспрымаць гэта ўсур'ёз. Адной з асаблівасцей сённяшняга развіцця сучаснай украінскай літаратуры якраз і з'яўляецца той факт, што ўкраінскія літаратуразнаўцы і літаратурныя крытыкі настолькі ж іранічныя і самаіранічныя, як і пісьменнікі, што моцна адрознівае іх ад беларускіх калег, для якіх мінімальны выхад за межы традыцыйнага акадэмічнага стылю ёсць сур'ёзнае парушэнне канвенцый.

У скарачэння «сучукрліт» («укрсучліт») ёсць і сінонім, які больш выкарыстоўваюць у навуковых даследаваннях, а менавіта «актуальная літаратура» (Тамара Гундарава, Саламея Паўлычка, Марко Паўлішын). Актуальнай літаратурай прынята называць і аналагічныя з'явы ў сучаснай рускай літаратуры, дзе абрэвіятура вызначэння «сучасная руская літаратура» не мае дадатковага сэнсу, літаратуразнаўцы і крытыкі аперыруюць паняццем «актуальная літаратура», якая, у сваю чаргу, з'яўляецца вытворным ад вызначэння «актуальнае мастацтва».

> *Дасведчаныя ўкраінскія літаратуразнаўцы і крытыкі, узброеныя ведамі гістарычнага і тэарэтычнага характару, адпачатку разумеюць, што з'яўленне новай мовы літаратуры, той мастацкай мовы, якая адпавядае новай рэальнасці, не можа не выклікаць негатыўнай рэакцыі ў непадрыхтаванага чытача*

### ШТО ЗА СКАНДАЛАМ?

У літаратуразнаўцаў існуе некалькі версій, якое менавіта паняцце легла ў падмурак гэтага вызначэння. Па версіі крытыка і літаратуразнаўцы Макса Фрая, выказанай у «Арт-Азбуке», «слова «актуальны» з'яўляецца эквівалентам англійскага *contemporary*. С. І. Чупрынін у сваіх літаратурных энцыклапедыях выводзіць этымалогію тэрміна ад "actualis" — той, які дзейнічае, дзейсны, важкі і істотны для цяперашняга часу». Апошні выступае супраць разумення гэтага слова ў якасці сiноніма слову «сучасны» і лічыць, што ў ім ёсць уласны сэнс, які ўзыходзіць да познелацінскай крыніцы і абапіраецца на ўведзенае ўдзельнікамі Пражскага лінгвістычнага кола паняцце актуалізацыі, то бок выкарыстання выяўленчых і выразных сродкаў мовы такім чынам, што яны ўспрымаюцца як незвычайныя, «дэаўтаматызуюцца».

Галоўнымі прыкметамі актуальнай літаратуры для гэтага тэарэтыка з'яўляюцца інавацыйнасць і пазакантэкстуальнасць. У сваім вызначэнні Чупрынін абапіраецца на высновы другой расійскай літаратуразнаўцы, якая займаецца тэарэтычным вывучэннем з'яў бягучага літаратурнага працэсу, — Марыі Бандарэнка.

Трэцяй прыкметай актуальнага мастацтва Чупрынін, услед за М. Фраем, лічыць яго скіраванасць на скандал як адну «з асноўных стратэгій авангарднага мастацтва», таму «з аднаго боку, шырокая грамадскасць даведалася пра існаванне актуальнага мастацтва менавіта дзякуючы скандалам, з другога — дзякуючы скандалам легітымнасць актуальнага мастацтва па-ранейшаму сумнеўная».

Відавочна, што менавіта гэтая скандальнасць, правакатыўнасць знайшла сваё выяўленне ў сэнсавым скарачэнні слова «сучасны» да іранічнага «суч» у абрэвіятурах «сучбелліт» і «сучукрліт».

Аднак ёсць і іншыя меркаванні. Расійскі даследчык У. Бандарэнка ў невялікім артыкуле «Актуальная літаратура» выступае супраць спроб «загнаць гэтае паняцце ў падполле авангарду альбо нейкай спецыялізаванай літаратуры». На думку У. Бандарэнкі, актуальная літаратура — гэта любая таленавітая літаратура, якая адказвае на выклік часу, нават апяроджвае свой час, бо яна прадчувае ўсе будучыя трагедыі і беды чалавецтва, нацыі, дзяржавы, грамадства, у якой бы мастацкай традыцыі яна ні стваралася».

Цяжка не пагадзіцца з Бандарэнкам, калі ён гаворыць, што ёсць не адна магчымасць быць актуальным. І, адпаведна, у розных пісьменнікаў — «розныя актуальнасці, розныя кропкі прарыву ў сапраўднасць». Актуальнасць паводле Бандарэнкі — гэта спосаб прарыву да новага быцця. Хто імкнецца зразумець гэтае новае быццё, пераадолець прорву небыцця, той і актуальны.

Розніца паміж паняццямі «сучукрліт»і «сучбелліт» і паняццем «актуальная літаратура» палягае ў тым, што першыя два тэрміны ёсць канкрэтная рэалізацыя трэцяга ў часе. Скарачэнні «сучбелліт» і «сучукрліт» у большай ступені выкарыстоўваюцца крытыкай і пісьменнікамі, у той час як тэарэтыкі літаратуры аддаюць перавагу тэрміну «актуальная літаратура».

# Вершаваны летапіс сучаснасці

## Маладыя галасы беларускай літаратуры

**Паэт і музыка. Сёння не рэдкая з'ява, калі гэтыя іпастасі спалучающца ў адным чалавеку. Вядомыя музыканты выдаюць зборнікі вершаў, а паэты запісваюць сольныя альбомы. Уладзь Лянкевіч, Віталь Рыжкоў, Кацярына Ваданосава, Мікіта Найдзёнаў... І гэты спіс можна працягваць. Адзін з такіх «шматстаночнікаў» — Алесь Плотка. Вядомы ў музычных колах творца выдаў першы паэтычны зборнік «Байсан», які нечакана выклікаў шырокі рэзананс сярод чытачоў. Алесь Плотка — свайго роду летапісец сучаснасці. У яго вершах выпісваюцца дасканала нават самыя незаўважныя дробязі. Мы бачым падрабязны партрэт ці то лірычнага героя Плоткі, ці то зборны вобраз прадстаўніка маладога пакалення. З тэкстаў творцы мы даведваемся, хто ён, сённяшні маладзён, як жыве, што яго атачае, якую музыку слухае, які алкаголь любіць... Прычым гэта шараговая паўсядзённасць арганічна чаргуецца з гамлетаўскімі развагамі пра прызначэнне ў жыцці і пра яго сэнс.**

*Сны на мове — значыць,*
*не памёр,*
*Жоўты ліст — не смерць,*
*хутчэй натхненне.*
*Не выкручвай рукі мне, Маёр.*
*Вечнае не скорыцца імгненню...*

Цікава, што больш моцнай за самі тэксты нечакана аказалася вокладка кнігі. «Вершніца» — творчая перапрацоўка гістарычнага герба, дзе замест рыцара з'явілася дзяўчына. Гэта сведчыць пра тое, што вырасла новае пакаленне беларусаў, якія ўспрымаюць культурную спадчыну не як сакральны скарб, да якога немагчыма нават дакрануцца, а як нешта, што можна і патрэбна пераасэнсоўваць і максімальна ўключаць у сённяшнія кантэксты. Як пазначае на вокладцы кнігі сам Плотка, для яго «Вершніца» — муза, сукупны вобраз беларускіх жанчын.

Што да самой паэзіі, то для Алеся Плоткі гэта не мэта, а проста сродак, каб выйсці на яшчэ адзін сегмент сваёй мэтавай аўдыторыі. Бо інструменты ён для гэтага выкарыстоўвае ўсё ж такі музычныя. Творца спалучае вершы і музыку, ствараючы перформанс, відовішча. Мы бачым не тую класічную паэзію ў чыстым выглядзе, да якой прызвычаіліся. З аднаго боку, гэта плюс: паэзія выходзіць на шырокі прастор, але з іншага — што застаецца, калі прыбраць музычны складнік? Безумоўна, аўтара можна апраўдаць: маўляў, кіруецца на густы аўдыторы. Да таго ж, пры сённяшнім тэмпе жыцця, калі ніхто не чытае шматтомных раманаў, лаканічныя фарматы, кароткія формы, простыя і зразумелыя па змесце творы бліжэй маладому пакаленню. Але, набываючы кнігу вершаў, хай сабе і электронную, хочацца якаснай паэзіі, чагосьці калі не ўзвышанага і вытанчанага, то хаця б глыбокага і змястоўнага.

Алесь Плотка таксама вядомы ў культурных колах як каардынатар шматлікіх праектаў — адсюль і камерцыйны падыход да прасоўвання творчасці. Паэт не забываецца і пра паплечнікаў, актыўна дапамагае яшчэ зусім юным літаратарам, напрыклад, удзельнікам паэтычнага конкурсу «Рухавік». Гэта, безумоўна, вельмі добрая і карысная справа, бо з літаратурным рынкам у краіне, мякка кажучы, цяжкавата. Няма літаратурных агентаў — прамоцыяй сваіх кніг вымушаны займацца самі аўтары. Калі да прасоўвання далучаецца выдавецтва, гэта добра, але, на жаль, так адбываецца не заўжды. Таму ўзаемадапамога і падтрымка ў так званай «літаратурнай тусоўцы» вельмі патрэбная і дарэчная. Але ёсць у гэтым і прыкрыя наступствы, бо з інстытутам крытыкі таксама вялікія праблемы. Ёсць небяспека і ў тым, што маладых літаратараў, асабліва пачаткоўцаў, шмат песцяць добрымі водгукамі, занадта апякаюць. Яны чуюць у большасці хвалебныя словы, часцей за ўсё — ад сяброў. А вось канструктыўнай крытыкі, з парадамі, з указаннямі на памылкі і шанцам іх выправіць — не. Таму дэбютныя кнігі, безумоўна таленавітыя, часам выходзяць сырыя, неадшліфаваныя. Калі на ўсю кнігу трапляецца з дзясятак сапраўдных вершаў, то гэта, канечне, хоць і прымальна для першага выдання, але ўсё ж...

Так выглядае сітуацыя і са зборнікам Алеся Плоткі «Байсан». Чытаючы яго вершы, увесь час ловіш сябе на адчуванні, што гэта не мастацкая кніга, а блог у інтэрнэце. Гэта ўвогуле характэрная рыса для маладой літаратуры — відаць, творцам так працей дагрукацца да сваіх чытачоў. Магчыма, мы нават назіраем зараз утварэнне новай медыялітаратуры: у межах анлайн-дзённіка яна выглядае даволі арганічна, але ж калі афармляецца ў асобную кнігу, то атрымліваецца… крыху па-школьнаму.

Узяць хаця б верш «Толькі небам», які адкрывае зборнік. Цікавае спалучэнне самапрэзентацыі, каб чытач ужо з першых радкоў пазнаёміўся з асобай аўтара, і сціплага какецтва, — маўляў, не трэба вашай ухвалы, хопіць «лайка» ад неба.

*у жыцці гэтым любіў дзве рэчы:*
*віскі з колай і віскі без,*
*водар каляднае свечкі і ў душу*
*каб ніхто не лез*
*з-баўнцы ці нішчымную каву*
*і людзей.*
*з іх брахнёю і байкамі.*
*на працы глядзець TUT-Баву*
*і застацца сабой...*
*толькі небам залайканым*

Такім чынам, зборнік выйшаў вельмі пярэстым па стылістыцы, па тэмах і настроях і таму выглядае крыху хаатычна. Аўтар, відаць, гэта разумее і намагаецца выбудаваць нейкую ўнутраную логіку, змяшчаючы вершы не ў храналагічным парадку. Але звонку прасачыць гэтую логіку не так проста. Таму кніга ўспрымаецца хутчэй як падсумаванне зробленага. Магчыма, выданнем дэбютнага зборніка Алесь Плотка падводзіць умоўную рысу перад новым этапам сваёй творчасці, поўным смелых эксперыментаў. Так што не будзем рабіць вялікіх высноў — аўтар яшчэ толькі на старце!

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

### Водарам

*Водарам,*
*А не кветкай*
*Застацца добра ў вяках!*

*Гонарам*
*Чужым дзеткам*
*Дрэўкам, што ганьбіць сцяг*

*Гоманам*
*Па-над лёсам*
*Сваім і чужым, бо ты —*

*Колерам*
*Занябёсным,*
*Не першым і не другім*

*Талерам*
*Неразменным,*
*Якога ў кішэні няма*

*Возерам*
*Неабсяжным,*
*Бязводным, дзе плыць дарма*

*Берагам*
*Запаведным,*
*Які не ўбачыш у снах*

*…Водарам,*
*А не кветкай*
*Застацца добра ў вяках!*

# Казкі для дарослых дзяцей

## Фантастычная рэальнасць Кацярыны Мядзведзевай

**Ужо з першых слоў гэтай казкі ўяўляюцца яркія карціны. Кніга Кацярыны Мядзведзевай «Разламашкі майстра Люфта» — захапляльная, прыгожая, мудрагелістая. Тут і Андэрсэн, і Гейман, і крыху стымпанку, і трошкі Ціма Бертана.**

Настальгічна і актуальна, саркастычна і міла, проста і кранальна — кожнае апавяданне б'е ў сэрца чарадой выверaных сказаў. Кожны з персанажаў зразумелы і, разам з тым, сюррэалістычны. Тое самае можна сказаць і пра сюжэты. Бо ў кожнай казцы ёсць доля казкі. Але хочацца думаць, што недзе ў свеце існуюць людзі, якія былі прататыпамі герояў гэтага зборніка.

Калі ты не аматар малой прозы, апавяданні — гэта нешта накшталт ежы: закусіў адно на сняданак, рассмакаваў. Калі прыйшлося да густу, то працяг дадумваеш, проста атрымліваеш асалоду ад успамінаў пра добрую гісторыю. Нясмачным здаўся аповед — праглынуў ды забыўся.

Аповеды ў Кацярыны Мядзведзевай вельмі хатнія і ўтульныя, нават калі дзеянні там адбываюцца на вуліцы ці ў халодны зімовы час. Чытаеш — і бачыш свой горад. Бо ў кожным месцы ёсць казачныя вуліцы, і людзі такія ж, і котку таксама нярэдка сустрэнеш. Дык, можа, і кропелька чарадзейства ў нас ёсць, трэба толькі яго ўбачыць?

Вельмі арганічна аўтар упляла ў свае гісторыі містыку, якая дадала кнізе пэўны шарм і атмасфернасць. Таямніцы і загадкі, яркія героі, добрыя і агідныя ўчынкі, падзеі, якія ніяк не збяруцца ў адно цэлае… Казка Кацярыны Мядзведзевай вучыць дарослых зноўку, як у дзяцінстве, марыць, фантазіраваць, у кожным моманце шукаць глыбокі сэнс. Гэта зборнік добрых гісторый з мноствам прыемных дробязяў, якія надаюць кнізе асаблівы характар і жвавасць. Гэта дзіцячыя прыгоды і свавольствы, праблемы адносінаў з настаўнікамі і таварышамі, бытавыя сцэны, стасункі са сваякамі і бацькоўскае выхаванне. Думаю, менавіта такія кнігі здольныя выклікаць у сэрцы іскру дабрыні і душэўнай цеплыні.

У кнігі толькі адзін мінус: яна да крыўднага хутка скончылася. Чытанне настолькі паглынае, што на некалькі гадзін проста адключаешся ад навакольнага свету (вяртаешся з горкім прысмакам расчаравання, што кніга ўжо прачытана, а хочацца працягу).

Натуральна, гэта не самая грандыёзная праца аўтара, бо ўсё яшчэ наперадзе. Але для дэбютнага зборніка малой прозы — годная!

**Дар'я ЛАТЫШАВА**




***«Жыллё майстра Люфта было падобна да легендарных разламашак. Нязграбны, рознакаляровы, дзівакаваты дом з мноствам вежак, мансард, флюгераў і, невядома для чаго, з байніцамі. Мабыць, каб адстрэльвацца ад дакучлівых прыхільнікаў. Кутняе акно на другім паверсе было забрана кратамі. Хутчэй за ўсё, менавіта там жыла бабуля Люфт у абдымку з каштоўнай калекцыяй. У акне па суседстве курыла прыгожая брунетка няпэўнага ўзросту. А ў акенцы мезаніна сядзела дзяўчынка з коскамі і пускала мыльныя бурбалкі».***

# Прытоены смех

## Да 130-годдзя з дня нараджэння Змітрака Бядулі



**У адной з работ Змітрок Бядуля адзначаў вялікую павагу яўрэяў да мудрасці беларускіх сялян: «У іх ёсць такая прыказка: «*Agojescher glajchwort ist wi aidocshe tojre*» (сялянская прыказка — усё роўна як жыдоўская Тора)» («Жыды на Беларусі. Бытавыя штрыхі», 1918 г.).**

### СКАРБЫ «СЯРЭБРАНАЙ ТАБАКЕРКІ»

Адзін толькі пералік выслоўяў з гэтай Бядулевай казкі запатрабаваў бы працяглага часу і немалой газетнай «плошчы». У творы ёсць фраза: «Усе гэтыя слоўцы я запісваў на вашай зямельцы». Многія з іх — наша нацыянальнае «ўсё» нават у XXI стагоддзі («Няма зла без дабра»; «Калі ёсць рыба, будзе і юшка»; «Дзела дзельніка баіцца»). Асобныя ж бядулеўскія выразы не давялося сустрэць ні ў чыіх іншых творах: «Без ветру і дуб не шуміць», «Вастры зуб аб зуб, а розум аб розум», «Слова вецер, а пісьмо грунт»... Казка змяшчае няпісаныя законы жыцця, якія давялося спасцігнуць пісьменніку і яго героям: «За праўду б'юць», «Чалавек заўсёды знойдзе прычыну для незадаволенасці», «Трэба адносіцца больш мякка да ўкаранелых звычак і больш цвёрда да ўкаранелых подласцей».

На першай старонцы казкі чытаем: «У маленькай хацінцы, вокны якой былі расчынены, мірна вячэрала сям'я...». Барыс Мікуліч быў з З. Бядулем у добрых сяброўскіх адносінах і ў «Аповесці для сябе» з цеплынёй успамінае, што пісьменнік «любіў цішыню сваёй маленькай кватэры, валтузню дзятвы, ціхую гутарку...». Жонка З. Бядулі частавала гасцей «стравамі яўрэйскай кухні, а сам гаспадар быў увасабленне бацькі — заўсёды або сын, або дачка Зорка на руках».

Нездарма і ў казцы вялікае значэнне нададзена каштоўнасцям сям'і, хай сабе і зайчынай. Маці радуецца, «што дзеці маюць чаго есці». Малыя паслухмяна сціхаюць, бо татка і мамка «так напрацаваліся за дзень». З. Бядулю ўласціва пільная ўвага да дзяцінства і старасці. Дзед у беларускай сям'і — носьбіт нацыянальных і радавых каранёў, высокай маральнасці, традыцый і вопыту, якія трэба перадаваць далей. Але гэта таксама і клопат, і лагода, і патрабавальнасць, і мудрая засцярога, і незласлівы жарт. Стары зацікаўлена сачыў за малымі і спадзяваўся: «Зусім магчыма, што знойдзеце качан капусты з шоўкавымі, сярэбранымі і залатымі лістамі» (алегарычны вобраз таленту як вялікага дару). Каштоўнасць працы сцвярджаецца ў аповедзе пра сезонныя сялянскія клопаты: выбіранне бульбы, малацьба, прадзіва і ткацтва. Смак надзённага хлеба выступае мерай хлеба духоўнага. Казка, як ёй і належыць, неназойліва прывівае каштоўнасці радзімы: «Перад развітаннем з роднай хаткай у Дзіда-дзеда так сашчамілася сэрца, што ён пусціў некалькі слёз са сваіх вечных вачэй».

Мастацкая адметнасць казкі «Сярэбраная табакерка» абумоўлена не толькі імкненнем аўтара сцвердзіць традыцыйныя каштоўнасці, а і намерам асэнсаваць сучасную яму рэчаіснасць. Не ва ўсякую эпоху магчыма прамое аўтарскае слова, непасрэднае выяўленне аўтарскіх пачуццяў. І тады даводзіцца звяртацца да іх імпліцыравання, прыхоўвання.

### НАВУКА І САТЫРА

Скарб іншага персанажа казкі, аптэкара Савіцкага, — навуковыя доследы, што даюць яму «самі па сабе вялікую асалоду». Сучасныя даследчыкі ацэньваюць вынаходніцтва аптэкарам Савіцкім «мясных буракоў» як навуковы прагноз пісьменніка на будучыню. Але тут хутчэй З. Бядуля іранізуе з вульгарна-матэрыялістычнай тэорыі «жывога рэчыва», аўтарам якой была Вольга Барысаўна Лепяшынская. «Усё, што расце на зямлі, мае ў сабе жывыя клеткі», — лічыць казачны Савіцкі, у той час як рэальная Лепяшынская сцвярджала: усе асноўныя ўласцівасці арганізма вызначае не клетка, а неаформленае «жывое рэчыва» (яго прырода даследчыцай не вызначалася). Гэтае вучэнне, на думку спецыялістаў, адкідала савецкую біялогію сама меней на сто гадоў назад. Якаў Львовіч Рапапорт, які інспектаваў працу лабараторыі, успамінаў аповед дачкі Лепяшынскай пра навуковы эксперымент: «Мы бяром чарназём з-пад маміных пазногцяў і даследуем на жывое рэчыва...». Былі спробы здабыць яго з расцёртых перламутравых гузікаў, прапаленага птушынага памёту... Паслядоўнікі даследчыцы, кіруючыся «логікай» чарадзейнай казкі, не адмаўлялі магчымасці ператварэння клетак вышэйшых раслін у жывёльныя. Ставілася нават пытанне пра хуткую пастаноўку праблемы ажыўлення!

> *Скамарохі выступаюць як апалогія адораных людзей з павышанай чуйнасцю, у якіх мастацкая дзейнасць здольная абудзіць незвычайныя сілы і прымірыць з грубасцю жыцця. Што да Бядулі, то ён, як сведчыць Б. Мікуліч, з цяжкасцю мяняў погляды, але заўсёды імкнуўся не быць «папутнікам», а быць «сапраўдным»: «Гэты працэс быў пакутлівы, марудны і цяжкі. Але і ў ім, у гэтым працэсе, была сапраўдная эпічная паэзія».*

У 1950-х гадах тэорыю «жывога рэчыва» прызналі ненавуковай. Можна дапусціць, што «мясныя буракі» Савіцкага («буракі-бараны, буракі-зайцы, буракі-быкі, буракі-кабаны» і інш.) — літаратурны «карэлят» гэтай гісторыі. Пазней да яе звернецца А. Волкаў у казцы «Урфін Джус і яго драўляныя салдаты» (1963). А ў «Сярэбранай табакерцы» пададзена, скажам так, каштоўнасная альтэрнатыва «мясным буракам» — «не менш цудадзейная» за іх беларуская бульба.

З. Бядуля апавядае, як аптэкара Савіцкага ў выніку хітрыкаў кардынала Баніфацыя доўга некуды везлі ў скрыні, падобнай да труны. А праз нейкі час, пачуўшы ўсплескі вады і калыханне, Савіцкі здагадаўся, што ён на караблі. «Ехаў Савіцкі морам аж дзесяць дзён». У падзямеллі яго, закаванага ў ланцугі, слугі Баніфацыя ўсыпілі на сто год. Гэты матыў выклікае ўстойлівыя асацыяцыі з пакутніцкім шляхам вязняў на Салавецкія астравы, які ў дакументальна-мастацкім дыскурсе ўзнавіў Ф. Аляхновіч («У кіпцюрах ДПУ»). Да таго ж, парашкі, што вынайшаў аптэкар, маглі ўсыпляць людзей на тэрмін ад пяці да дзесяці год, і нават на сто... Сімволіка сну і сцюжы ў сукупнасці адлюстроўвае крызіс гуманістычных каштоўнасцей. «Аптэкару стала сцюдзёна. Ён пачаў дубець. Нібы ад вялікага марозу. Сон плыў па яго крыві, быццам лёд».

### АПРАЎДАЦЬ СКАМАРОХА

Значная частка сюжэта казкі звязаная з дзейнасцю скамарохаў, з'явай загадкавай у гісторыі і культуры славянства. Старажытнае народнае мастацтва замацавала погляд на скамарохаў як носьбітаў звышнатуральных якасцей, скіраваных на дабро. Але з XVI — XVII стст. у Еўропе ў выніку ганенняў афіцыйнай царквы і дзяржавы пачынае фарміравацца супрацьлеглы вобраз скамароха — служкі д'ябла, з характэрнымі яму магічнымі ўласцівасцямі, якія ён нібыта скарыстоўвае на шкоду добрым хрысціянам.

Хоць сваімі паводзінамі скамарохі і супрацьпастаўлялі сябе агульнапрынятаму, гэта не рабіла іх разбуральнікамі традыцыі: мастацтва скамарохаў, грубаватае, элементарнае, усё ж вынікала з тых формаў, якія склаліся адпаведна народнаму густу і замянялі навейшую літаратуру і тэатр. Народ не адмаўляўся ад звыклых і ўлюбёных святочных забаў, завадатарамі якіх выступалі скамарохі. Этыка скамароства была своеасаблівым «антысветам», апазіцыяй сістэме афіцыйных адносін, у прыватнасці, адмаўляла ідэю маўчання як ідэалу манаства, актыўна ўспрынятага і праваслаўнай царквой. Сярэднявечнае царкоўнае мастацтва асуджала ўсякія пачуццёвыя забавы і самую народную культуру, якая змяшчала элементы паганскіх вераванняў.

І ксёндз у казцы «Сярэбраная табакерка» гаворыць сялянам, што скамарохі — чэрці, то бок ерэтыкі адносна пануючай рэлігіі. Але не трэба забываць, што семантыка слова «ерэтык» зыходзіць з грэчаскага «выбіраць». Скамароства, як і цімакоўства, — тэрыторыя свабоды, недасяжнасці і для пугі, і для перніка. Скамарохі, падкрэслівае З. Бядуля, «уцякалі ад славы і пачасцей, як ад ворагаў». Галоўны сярод казачных скамарохаў — кучаравы паэт, якога яны неўзабаве карануюць як свайго цара. «У маладога чалавека была густая кучма валос, мройныя вочы незвычайнага колеру, далікатныя рукі з доўгімі пальцамі». Паводле Б. Мікуліча, пра З. Бядулю расказвалі (ды і ён часам успамінаў пра гэта), «што з юнацтва быў гарачы і ўлюблівы, — гэты сатыр з рыжай чупрынай, якая паступова ператварылася амаль у чорную, каб пазней пасівець». Якуб Колас прысвяціў Бядулю «казку жыцця» пад назвай «Кучаравае дрэва».

> *Мастацкая адметнасць «Сярэбранай табакеркі» абумоўленая не толькі імкненнем аўтара сцвердзіць традыцыйныя каштоўнасці, а і намерам асэнсаваць сучасную яму рэчаіснасць. Не ва ўсякую эпоху магчыма прамое аўтарскае слова, непасрэднае выяўленне аўтарскіх пачуццяў. І тады даводзіцца звяртацца да іх імпліцыравання, прыхоўвання.*

Аднак справа, канечне ж, не толькі ў партрэтным падабенстве героя і аўтара. Асобныя рысы псіхатыпу скамароха (арлекіна), які за паказной нязграбнасцю хаваў тонкі розум, трапнае маўленне і забойную іронію, былі ўласцівыя самому З. Бядулю, летуценніку і ідэалісту. Такія ж якасці нададзеныя і іншым героям казкі. «Дзіда-дзед неспадзявана для самога сябе зрабіўся скамарохам. У яго была такая дабрадушная і нібыта шчырая фізіяномія, што чорны "дзядзенька" ніяк на яго пакрыўдзіцца не мог. Дзіда-дзед граў дасканала ляснога прастачка, які збянтэжыўся пры такім высокашаноўным госціку з вялікіх гарадоў».

Але нязграбнасць скамароха, недарэчнасць яго дзеянняў не толькі паказныя. Гэта вынік устойлівага эмацыянальнага дыскамфорту ў зносінах са светам і людзьмі, які панаваў у «сцюжную эпоху». Паводзіны скамароха абумоўленыя роляй, бойкасць яго завучаная, мажор адрэпеціраваны...

Трансфармацыя аўтарам зямнога свету перад абліччам свету вышняга адбываецца непрамым, парадаксальным, «перакуленым» спосабам — часта цаной уласнай пакутлівай трансфармацыі. І. Бродскі пра арлекіна піша: «...шукае ў небе нешта ён / і плача па начах...». Пра Бядулю Б. Мікуліч піша: «было такое ўражанне, нібы нейкая адзінота акружае гэтага вялікага мастака беларускай літаратуры, што адны пазбягаюць яго, а іншых чужаецца ён сам». У казцы «Сярэбраная табакерка» скамарохі выступаюць як апалогія адораных людзей з павышанай чуйнасцю, у якіх мастацкая дзейнасць здольная абудзіць незвычайныя сілы і прымірыць з грубасцю жыцця. Што да Бядулі, то ён, як сведчыць Б. Мікуліч, з цяжкасцю мяняў погляды, але заўсёды імкнуўся не быць «папутнікам», а быць «сапраўдным»: «Гэты працэс быў пакутлівы, марудны і цяжкі. Але і ў ім, у гэтым працэсе, была сапраўдная эпічная паэзія».

Кажучы сучаснай мовай, скамарох — арт-тэрапеўт. Яго лекі — дабрыня і смех, мэта — «аджартаваць» усякую напружаную, хвараблівую, балючую сітуацыю. Нават у падзямеллі, каля акамянелага аптэкара, «цар скамарохаў быў такі вясёлы, што і тут не мог абыходзіцца без прадстаўленняў». Зайграўшы на ліры «мяцеліцу», змусіў танцаваць усіх. Занятак скамарохаў арганічна аб'ядноўваў дзве іпастасі — рэлігію і мастацтва. Некалі скамарохі былі памочнікамі валхвоў, ураўнаважвалі сваёй весялосцю сур'ёзныя абрады. Танцуючы каля ложка паміраючага, скамарох уступаў у кантакт са смерцю, залагоджваў і адганяў яе. «Кучаравы паэт» просіць Дзіда-дзеда парадзіць, «як знайсці і схаваць у табакерку Смерць мастацтва». У яго маналогу З. Бядуля эфектыўна выкарыстоўвае поліасацыятыўнасць метафары. «Нягледзячы на тое, што вы схавалі Смерць у табакерку, мае творы паміраюць... Я часта чую іхнія стогны. Я чую іх кананне... Чую шурхат лапат... Гэта бібліятэкары-далакопы хаваюць мае кнігі на спецыяльных паліцах-магілах...». На што Дзіда-дзед мудра адказаў: смерць забівае толькі фальшывыя песні, а шчырых не чапае, таму жыццё песень залежыць ад самога аўтара.

Гэта ў поўнай меры праўдзіцца і адносна творчага лёсу казкі «Сярэбраная табакерка». Дзякуючы сваёй сэнсавай ёмістасці і мастацкім вартасцям гэта сапраўды твор «навырост» — і для асобнага чытача, і для цэлага грамадства.

**Алена БЕЛАЯ**

Мікола МЯТЛІЦКІ



## Чарнобыльскі трыпціх

**1**

*Выгнальна-пакутных трыццаць гадоў*
*Над Бабчынам прашугала.*
*Былога жыцця не багата слядоў —*
*Мёртвае Гала.*

*Хаты нагорбіліся ў палыне,*
*Аселі на трэць.*
*З вокан пагаслых глядзіць на мяне*
*Чорная смерць.*

*Вязы на вуліцы паўз стужку-асфальт*
*Ўсталі ў абхон.*
*Правіць хаўтурны нясходны тут баль*
*Час-далакон.*

**2**

*Зрубы калодзежаў пазараслі*
*Мохам і крапівой.*
*Селі падаўна ў траву жураўлі*
*Па-над вадой*
*Нежывой.*

*Дзікай абложай былыя сады*
*Ўсталі ля хат.*
*Нават не кіне сонца сюды*
*Зыркі пагляд.*

*Шчэцціцца сосны на бліжніх палях —*
*Ветру пасеў.*
*Выйшлі бярозы на колішні шлях,*
*Бор палысеў.*

*Густа забіў гладзь азярца*
*Чэпкі лазняк.*
*Рушыў кучомісты ў бок Варатца*
*Рослы хмызняк.*

**3**

*Хата, дзе маці дыханне жыло,*
*Век дажывае свой.*
*Вокнаў веранды бітае шкло,*
*Сумны спакой.*

*Здзёрты вятрамі шыферны дах,*
*Сырасць між сцен.*
*Жудасна, страшна, як на кладах,*
*Дыхае тлен.*

*Роднае котлішча! Нічыё.*
*Родны мой кут!*
*Сёння нясходнае гора маё*
*І жыве тут.*

*Дзверы рыпучыя прачыню —*
*Стылы парог.*
*Слухаю горкую цішыню.*
*Што я збярог?*

*Памяці толькі зыркі прамень —*
*Чысты глыток святла.*
*Зноў на двары студзеньскі дзень,*
*Мама ад студні прыйшла.*

*Побач малыя — брат і сястра,*
*І за сталом — усе.*
*Бацька карове па ўлонні двара*
*Сена ахапак нясе.*

*Зырка на грушцы сядзяць снегіры,*
*Лыжы ў кутку.*
*З імі, падлетак, я на двары,*
*Шчыпле мароз шчаку.*

*Стаю… Праз трыццаць выгнальных гадоў*
*Тут, як малое дзіця,*
*Шукаю адно ледзьве кметных слядоў*
*Былога жыцця.*

***

*Паўжыцця ўжо майго на Чарнобыль прыпала,*
*Бы згарэла яно ў смерчы гэтым, прапала.*

*Толькі думы й былі, што ні дзень чарней сажы,*
*Палавіны сябе не знаходжу прапажы,*

*Як адрэзана частка жыцця па жывому,*
*Не пазбыцца ніколі чарнобыльскай стомы,*

*Не зірнуць на траву, як глядзеў я дагэтуль,*
*Не прайсціся па росах чысцюткага лета,*
*Не падацца мне ў лес і грыбоў не прынесці,*
*І не спець больш святлынню азoранай песні.*

*Толькі з памяці гойнае чэрпаць бясконца*
*Беспагрознае шчэ, прамяністае сонца.*


Фота Кастуся Дробава.

## Роднаму Бабчыну

*Я любаваўся чысцінёю зор*
*І думаў, калі некалі сыду,*
*Па-над табою іх начны дазор*
*Камусьці скажа пра маю бяду.*

*А выпала, што ты раней памёр,*
*Скаваў душу ў нясходную жуду.*

*На ядзерным магільніку тваім*
*Паміж струхлелых, пачарнелых сцен*
*Стаіць нясходна сёння часу тлен.*
*І смерць сама хаўрус заводзіць з ім,*
*Нічога ўжо не просячы ўзамен.*

*Жыццё даўно сплыло,*
*Як з печы дым.*

## Галубоўская

*І якая калісьці душа галубіная*
*Так назвала цябе, баравіна любімая?*
*Чым была для душы чулай гэтак адметная?*
*Мо каханне прыйшло тут пад соснамі светлае*

*І дзявочыя вочы хлапцу першай згодаю*
*Наталіцца далі незямной асалодаю.*

*Можа, маці дзяцей тут вадзіла сцяжынаю,*
*Ахінала сваёю душой галубінаю,*

*Не спускала з вачэй, а якая ўжо ўцешная,*
*Як знаходзілі грыб, бегла роснаю сцежкаю,*

*Падымала малога на рукі, так любячы,*
*Усім сэрцам яго і душою галубячы.*

*Хай пачуе ля зор уладар назвы гэтае,*
*Што душа мая тут і зімуе, і летуе,*

*Што мясціну яго і маю галубіную*
*Называю сардэчна малою радзімаю,*

*Што на вёрстах зямных мной яна не забытая,*
*Нават строньцыем густа зыбучым укрытая.*

*Сыдзе, веру, адсюль хіжасць згубная, воўчая.*
*Зноўку чыстай расой заблішчыш, Галубоўская,*

*Страпянешся пад ветрам сваімі хваінамі.*
*Там яна не навек, дзе душа галубіная.*

## Стагі

*Стагі згадаў, што ставілі на клетках*
*Паміж лаўжоў з былых згібелых лоз,*
*І зноў пабыў у часе тым пры сведках,*
*Дзе шчэ Чарнобыль не пакінуў слёз.*

*Мае вяскоўцы, бабчынцы, — жывыя,*
*На тварах — ні хмурыначкі тугі,*
*І дужыя яшчэ, і маладыя,*
*Кладуць і вершаць гэтыя стагі.*

*Яшчэ так пахне медуніцай сена,*
*І небакрай над лесам не пагас.*
*У памяці нясходна і нятленна*
*Стаіць і сёння вёскі светлы час.*

*І ў ночы, прахалодныя, даўгія,*
*Каб адхіснуць Чарнобыля бяду,*
*На клеткі Гала гэтыя стагі я*
*З вяскоўцамі дасюль вяршыць іду.*

Вольга САКАЛОВА



* * *

*Пакуль у сэрцы не змаўкае песня,*
*Што чула я ў дзяцінстве ад бацькоў,*
*Жыве са мною роднае Палессе*
*І вуліца, што спіць сярод пяскоў.*

*Я там — душой.*
*Я там — у светлых снах,*
*Бо лепшых краявідаў не бывае!*
*Мае ўспаміны — гэта крыл узмах,*
*Калі ўжо сіл ляцець і не хапае...*

* * *

*А я праўдай засею,*
*Толькі праўдай раллю,*
*А я толькі слязою*
*Гэту праўду палью.*

*Хай ўзрасце і саспее,*
*Нібы жыта, буйной.*
*Толькі праўда умее*
*Быць заўсёды жывой.*

## Рака дзяцінства

*Ты зусім нешырокая,*
*Майго лёсу рака,*
*І зусім неглыбокая,*
*Ды цячы, не знікай...*

*Ты цячы, мая рэчанька,*
*Не мялей, не мялей.*
*Не спяшайся у вечнае —*
*Там не стане мілей...*

*Буду верыць, як верыла,*
*Што вадзіца твая*
*Маё сэрцайка лекуе —*
*Там, дзе ты, — там і я...*

*Ты цячы, мая чыстая,*
*Долю ў хвалях люляй.*
*Без цябе я не выстаю,*
*Дык цячы, не знікай...*

* * *

*Скажу аблокам я: «Плывіце!*
*Плывіце ўдалеч без мяне.*
*Што лепей будзе — не маніце,*
*Падман салодкі не кране...»*

*Скажу я воблакам: «Бывайце!*
*Я з вамі ў марах буду плыць.*
*Адтуль, звысок, паспагадайце,*
*Бо на зямлі нялёгка жыць...»*

*Штодня я з імі размаўляю,*
*Штодня душой ірвуся ўвысь...*
*Ўсе гарызонты расхінаю,*
*А доля цягне крылы ўніз...*

*Скажу аблокам я: «Плывіце!»*

## Плывуць аблокі

*Плывуць аблокі некуды няспешна,*
*Плывуць на захад і плывуць на ўсход...*
*Скарэнне гэта альбо незалежнасць —*
*Ды, пэўна, ўжо апошні іх палёт.*

*Нашто шукаць вялікую загадку,*
*І таямніцу тут нашто масціць,*
*Ёсць у аблокаў верная разгадка:*
*Яны плывуць, бо дадзена ім плыць...*

## Мае вершы ляцяць да мяне

*З паднябеснага балю — сняжынкамі*
*Вершы ляцяць...*
*Засыпаючы срэбнай хусцінкаю*
*Усё наўкола... і думак гаць...*

*Не рыхтую паперу з алоўкамі,*
*Сваю песню я ў сэрца прыму...*
*Не баюся падаць нялоўкаю,*
*Бо так рада я шчасцю свайму!*

*Светлым вальсам завея кружылася,*
*І сняжынкі ляцелі з нябёс.*
*Мо натхненне маё й прыпазнілася,*
*Але гэта, даруйце, мой лёс!*

## Маліліся маці

*Малілася маці нячутна,*
*Малілася ціха, без слёз —*
*Ці, можа, за долю пакутную,*
*Ці, можа, за горкі чый лёс...*
*Прасіла у неба матуля,*
*Прасіла у сонца штодня,*
*Каб гэту малітву пачула*
*Дачушка — яе птушаня.*
*А ў словах малітвы апошняй*
*Ўсё чулася: «Доню, прыйдзі!*
*Хай сколюцца ногі на пожні,*
*Дарогу дадому знайдзі...*
*Як хораша зноў каля хаты*
*Вяргіні ды астры глядзяць!*
*І ягад у лесе багата,*
*Ды некаму іх назбіраць...»*
*А вёска зусім апусцела,*
*А лета пайшло на сыход...*
*Жанчына ў акенца глядзела,*
*Круціла жыцця калаўрот...*
*Малілася маці нячутна,*
*Малілася ціха, без слёз...*

* * *

*Там, за рэчанькай мілаю Вішай,*
*Мая вуліца родная спіць...*
*Толькі мама лісточак мне піша*
*І да ранку ў акенца глядзіць...*

*Не папрокі, не просьбы, а ласку*
*Пасылае дачушцы здалёк...*
*Нават ночка ды зорачка-казка*
*Зазіраюць сюды незнарок...*

*І ўжо разам мне пішуць пасланне —*
*Ночка — зоркамі, мама — слязой...*
*Дарагое, святое прызнанне*
*Я прымаю стамлёнай душой...*

*Чым аддзячу за светлыя словы?*
*Як сустрэну іх праўду і свет?*
*А жыццё ўжо саткала выснову:*
*Ёсць матуля — ёсць сцежка ў Сусвет!*



Мікола АДАМ

# Спатканне ў адну ноч

*Апавяданне*

З Таняй Верабей Адама пазнаёміла аднакласніца летам 1996 года, калі той, скончыўшы першы курс філфака, прыехаў на вакацыі ў бацькоўскі дом пад Стоўбцамі. Гэта здарылася на турбазе «Высокі бераг», што на беразе Нёмана. Тут кожны вечар праводзіліся дансінгі і збіралася моладзь не толькі з ліку адпачываючых, але і са Стоўбцаў, і з блізкіх вёсак.

Адам прастаўляўся за ўдала здадзеную сесію. Абяцаў аднакласніцы (іх двары ў вёсцы глядзелі вокны ў вокны, маладыя людзі ведалі адно аднаго з пялюшак), што, калі здасць іспыты без хвастоў, абавязкова адсвяткуе з ёю. Яна прыйшла з сяброўкай (разам вучыліся ў Нясвіжы).

— Таня, — працягнула першаю руку дзяўчына Адаму, калі той павітаўся з аднакласніцай і павярнуўся да яе. — Верабей, — удакладніла чамусьці.

Яны стаялі ўбаку ад танцпляцоўкі пад старым велічным дубам, за пяць крокаў ад бара, і пакурвалі, калі падышоў Адам. Прапанаваў зайсці ў бар, аднак дзяўчаты заўпарціліся і папрасілі яго вынесці ўсё на прыроду — ужо і палянку прыгледзелі.

Падпарадкаваўся. Яшчэ было не так цёмна, калі ўладкаваліся з партвейнам і фруктамі пад разгалістай пухнатай сасной.

Аднакласніца прайгравала Тані. Таня была невялікага росту, хударлявая (вось чаму назвала і прозвішча, якое пасавала ёй як нікому, хіба яшчэ Эдыт Піяф), з русявымі да плячэй валасамі пад бейсболкай і агромністымі блакітнымі вачыма з доўгімі вейкамі, якія здаваліся намаляванымі. Апранутая ў блакітныя, працёртыя на каленях джынсы і спартыўную кофту «Адыдас» у чорна-бела-ружовыя квадраты. Аднакласніца ж на яе фоне выглядала як гара. Шыракакосная, з вугрыстай скурай, але анёльскім галаском. Танін голас чысцінёй не здзіўляў, аднак заварожваў прыемнай хрыпатцой. Пасля высветлілася, што дзяўчына яшчэ была і старэйшаю на чатыры гады.

Піла Таня ўмеючы і не п’янела. У адрозненне ад сяброўкі. Калі тая «наклюкалася», Таня «пайшла ў атаку» на Адама, які адразу ёй глянуўся. Запрасіла на танец — якраз загучала павольная мелодыя. Аднакласніца махнула рукой, маўляў, ідзіце танчыце і не хвалюйцеся.

Яны падняліся на танцпляцоўку, выйшлі на сярэдзіну, дзе ўжо тапталася некалькі пар. Таня ледзьве даставала яму да падбароддзя, але гэта ніколькі не бянтэжыла, хаця праз некалькі секунд, каб здавацца крыху вышэйшай, стала абедзвюма нагамі на ногі хлопца і шчыльней прыхінулася. У Адама закружылася галава: ці то ад партвейна, ці то ад гэтай блізкасці, ці то ад пацалунка, які не прымусіў сябе чакаць. Смела гледзячы ў вочы, Таня кранулася вуснамі яго губ. Хлопец моцна сціснуў дзяўчыну ў абдымках. У той момант ён адчуваў сябе ўладаром сусвету. У дзяўчыны заняло дыханне, але аб сваёй правакацыі не пашкадавала.

— Малайчына! — задаволена ўсміхаючыся, пахваліла яна Адама, як студэнта, што з поспехам здаў іспыт. — Толькі сілу не разлічваеш, я ўсё-ткі жанчына, — нібы ўпікнула.

— Ой, прабач! — Адам паслабіў абдымкі.

— Нічога, — супакоіла Таня, правёўшы рукой па яго плячы. — Але ж надалей будзь крыху далікатнейшы.

— Як скажаш, — прамовіў Адам.

— Ніколі не згаджайся хутка, — запярэчыла раптам. — А лепш увогуле не згаджайся, настойвай на сваім. Нам падабаюцца рашучасць і непахіснасць.

— Ты разумная, — выдаў Адам.

— Не, разумны ты, — не пагадзілася Таня. — А я прыгожая, — засмяялася.

— Самая прыгожая! — узнёсла падхапіў Адам.

— Табе лепш відаць, — спадабалася дзяўчыне.

Адам ніколі і ні з кім раней не адчуваў такой лёгкасці ў адносінах. Не хацеў з ёю развітвацца. Толькі б музыка не спынялася. Пра аднакласніцу забыліся, як і яна пра іх. Не магла дараваць Адаму няўвагі да сябе.

Прагучала апошняя мелодыя. Трэба было сыходзіць. Дзяўчына пацягнула хлопца. Яна ішла вельмі хутка і ні разу не спатыкнулася, хоць было цёмна.

— Куды мы ўсё-ткі? — вырашыў удакладніць Адам.

— Не пытайся, — спынілася Таня і пацалавала хлопца, супакойваючы. — Даверся мне, добра?



Адам згодна кіўнуў і не адставаў.

Яны ўзышлі на невысокі ўзгорак, дзе пад шатамі дрэў нават удзень не разгледзець кампактнай драўлянай хацінкі. Адкуль яна ведала?

Нахілілася да дзвярэй, замкнутых на навясны замок, абмацала шурпатую сцяну і з нейкай шчыліны ў дошках выняла ключ.

Увайшлі. Беспрасветная цемра. Адам хацеў уключыць святло, але дзяўчына спыніла:

— Тут ёсць свечкі. Электрычнасці не трэба.

Адам запстрыкаў запальнічкай, і Таня хутка знайшла кандэлябр з трыма свечкамі. Запаліла. Стала больш-менш светла і ўтульна. Адам агледзеўся. Чыстая, прыбраная каморка з нізкай столлю і адным акном у лес. Злева канапа, засланая кусачай коўдрай у зялёныя і чырвоныя прамавугольнікі. Над канапай на сцяне — дыванок з адлюстраваннем чорнага ката ў белай кашулі навыпуск у саламяным капелюшы, які вяртаўся праз лес з рыбалкі: на плячы нёс доўгую вуду, а ў руцэ вядро, паўнюткае рыбы. У правым куце — драўляны стол і два зэдлікі. Ля акна — тэлевізар «Гарызонт» на тумбачцы, на тэлевізары — відэамагнітафон. Драўляныя паліцы над сталом трымалі відэакасеты. На акне — квяцістая фіранка.

Таня замкнула дзверы на зашчапку, кандэлябр паставіла на стол. Павярнулася да Адама, павольна расшпільваючы кофту.

Ён раптам быццам ацверазеў. Што тут робіць? Дзяўчыну, якая прывяла яго сюды, ведае ўсяго нічога… А калі з ёй нешта не так? А можа, гэта падстава? Але каму ён патрэбны, каб падстаўляць? Ды гары ўсё гарам! Калі яшчэ так пашчасціць?..

— Нешта не так? — наблізілася ўшчыльную Таня, да канца расшпіліўшы кофту.

Развагі і сумненні Адама ўмомант адляцелі ў вырай, як птушыная чарада. Зноў не спытаў, адкуль дзяўчына ведае пра гэтае месца.

…Пасля яны доўга ляжалі нерухома.

— У мяне ніколі не было і больш ніколі не будзе пісьменніка, — нечакана прашаптала Таня на вуха Адаму. — Не здзіўляйся, я ведаю, што кажу. Станеш пісьменнікам, нават не сумнявайся. Можа, год праз дваццаць пяць цябе ўсе чытаць будуць.

У дзверы раптам моцна, з лаянкай загрукалі.

Ад чарговага ўдару дзверы зляцелі з петляў і з грукатам пляснуліся на падлогу. У памяшканне ўварваліся чацвёра, нападпітку, але з ясным розумам. Адам адчуў сябе персанажам кепскай п’есы пра няверную жонку, маладога палюбоўніка і неразумнага мужа.

Нязваныя госці пазіралі з нянавісцю.

— Ну што, шалава, вось ты мне і трапілася! — выдыхнуў першы, што стаяў бліжэй да дзяўчыны. Тая нічога не адказала, толькі ўнурыла галаву ў плечы.

— Словы падбірай, калі з жанчынай размаўляеш, — дзёрнуў чорт Адама раззявіць рот. Атрымаў такога ляшча пад дых і затрэшчыну ў сківіцу, што не ўстаяў на нагах, а падняцца ўжо не дазволілі — ледзь паспяваў прыкрываць твар. Таня ж за ўвесь гэты час не варухнулася, толькі вочы прымружвала ад бяссілля.

— Жанчына, кажаш? — каменціраваў кожны ўдар той самы, першы. — На ёй пробу няма дзе ставіць. Першая шалава ў горадзе! Знікла, праўда, год таму, «узнагародзіўшы» мяне! Я нават вачам спачатку не паверыў, як яна смела з табой танчыць навідавоку ва ўсіх!

— Чаму ж тады ты не мяне, а яго збіваеш? — падала ўрэшце голас дзяўчына.

— Рукі аб цябе пэцкаць — сябе не паважаць! — азірнуўся да яе пакрыўджаны і перастаў біць. — А яму навука будзе. Нічога, пакуль жаніцца — загаіцца. Я б цябе не крануў, — дадаў на выхадзе, — калі б ты мяне не зачапіў. Усю злосць на цябе спусцілі. Так што ганарыся да пенсіі сваім высакародствам.

Ён сплюнуў сабе пад ногі, і кампанія сышла.

Таня кінулася да Адама. З пабітага носа і рассечанай губы сачылася кроў. Дзяўчына дапамагла сесці, прыклала насоўку.

— Прабач, — правяла рукой па валасах Адама, — я не думала, што ўсё вось так скончыцца. Ты не хвалюйся, я чыстая.

— Але ён казаў праўду? — усё ж запытаў Адам, хаця ўжо ведаў адказ.

Таня апусціла вочы.

— Ты вельмі харошы, — прамовіла праз колькі секунд, узняўшы вочы на Адама. — Такі ўзнёслы, рамантычны, ветлівы. Я ніколі не была з такім. Дзякуй табе за гэта. Калі... калі ты не хочаш, каб я заставалася, я пайду...

— Куды?

Таня паціснула плячыма.

— Хадзем разам да мяне, — прапанаваў Адам. — Адну я цябе не пушчу. Я кахаю цябе.

— Ты нармальны? — сумна ўсміхнулася дзяўчына. Але вочы засвяціліся надзеяй.

За паўгадзіны яны дайшлі да вёскі, дзе жыў Адам, дакладней, яго бацькі. Ішлі праз лес, і ўсю дарогу хлопец чытаў дзяўчыне вершы. Перад каліткай Таня нерашуча спынілася.

— Можа, мне лепш вярнуцца туды? — паказала на дом насупраць, дзе жыла аднакласніца хлопца (у яе дзяўчына і спынілася).

— Як ты сабе гэта ўяўляеш? — не пагадзіўся Адам. — Колькі зараз часу? Пабудзіш усіх...

— А калі яны хвалююцца, перажываюць за мяне? Усё ж я госця.

— Думаю, яны ўжо ведаюць, з кім ты.

— Ты ўпэўнены?

— Не сумняюся, — Адам абняў дзяўчыну.

— А твае бацькі? — марудзіла Таня. — Як ты растлумачыш ім маё з’яўленне?

— Па-першае, — цмокнуў Адам дзяўчыну ў патыліцу, — зараз яны спяць. А па-другое, раніцай разбяромся.

Адчыніў калітку і прапусціў Таню ўперад. Брахнуў Байкал, высунуўшыся з будкі. Пазнаўшы гаспадара, голасна пазяхнуў і зноў схаваўся.

Адам на дыбачках правёў Таню ў свой пакой, уключыў настольную лямпу. Таня ахнула, убачыўшы мноства кніг. Увесь пакой быў застаўлены кніжнымі стэлажамі, нібы абшыты імі, як шпалерамі.

Хлопец разабраў пасцель. Здымаючы кашулю, паморшчыўся: на рэбрах выступалі фіялетавыя плямы.

— Распранайся і кладзіся спаць.

Таня не магла адарваць вачэй ад кніг.

— Ты ўсе іх прачытаў? — запытала яна, слізгануўшы пад коўдру.

— Правільна думаеш. Спі.

…Пасля гэтай ночы Адам больш ніколі Таню Верабей не бачыў. Калі прачнуўся, яе ўжо не было. Маці сказала, што правяла дзяўчыну на аўтобус да Стоўбцаў і ні пра што не распытвала.

Праз дзевяць месяцаў Адам атрымаў тэлеграму, якая прыйшла на адрас інтэрната. Маці віншавала з нараджэннем дачкі. Ён тут жа паехаў у вёску. Таню, вядома, шукаў, але дзяўчына быццам растварылася ў паветры. Ніхто нічога пра яе не ведаў.

Бацькі распавялі, што Таня з бацькам цэлы тыдзень кожны дзень прыязджалі да іх. Таня плакала. Бацька прапаноўваў ажаніць дзяцей. Пасаг за дачкой абяцаў немалы. Гэта ён папрасіў паведаміць Адаму, што той стаў татам...

Пасля аднакласніца, тая самая, што іх пазнаёміла, распавяла, што Таня адмовілася ад дзіцяці на карысць старэйшай сястры проста ў раддоме, а потым знікла. Таніна бяздзетная сястра прыняла дзіця як сваё. Аднакласніца вельмі прасіла Адама не рабіць ніякіх захадаў, каб убачыць малую: улічваючы Таніны «захапленні», цяжка вызначыць, чыё дзіця на самай справе.

# Шлях у сябе

## і цёмны бок мастацтва


Фота з сайта tut.by.

**Услед за Флабэрам, які называў сябе чалавекам-пяром, Святлана Алексіевіч называе сябе чалавекам-вушамі. Ці не ўменне слухаць дапамагло пісьменніцы стварыць яе «Галасы Утопіі»? Сёння, дый у любыя іншыя часы, талент слухаць і чуць — вельмі рэдкі, і праз тое такі прыцягальны! На сустрэчах са Святланай Алексіевіч чытачы задаюць пытанні не столькі пра яе кнігі, колькі пра сябе і пра жыццё, выходзячы за межы літаратуры. Што такое шчасце? Дзе пачынаецца зло? Ці бывае яно малым? Пытанняў шмат, а адказы заўжды ўдумлівыя і мудра абапіраюцца на суб’ектыўнае «здаецца» і «мяркую».**

Не выключэнне — сустрэча Святланы Алексіевіч з беларускім чытачом, што нядаўна адбылася ў Палацы Рэспублікі. Але ёсць і адметнасць: гэта Першы выступ Святланы Алексіевіч у Беларусі пасля атрымання пісьменніцай Нобелеўскай прэміі.

### «ДА» І «ПАСЛЯ»

«Пісаць заўжды цяжка. Не думаю, што нават вялікія прэміі, такія, як Нобелеўская, неяк чынам могуць на гэта паўплываць. Штопраўда, бываюць такія выпадкі (пра гэта распавялі ў Шведскай акадэміі), калі пісьменнік, атрымаўшы прэмію, пакідаў пісаць. Быць можа, ад страху?..»

### СКЛАДАНАЯ ПРЫРОДА ЗЛА

«Дастаеўскі зазіраў у такія глыбіні чалавечай прыроды, у якія ўжо ніхто, памойму, не здолеў зазірнуць. І агаломшана спыняюся перад гэтаю прорвай. Аднойчы ў Германіі мяне праводзіў на цягнік мой выдавец, і ў той дзень нешта адбылося ў краіне, кшталту тэрарыстычнага акту. Словам, я не змагла ўвайсці ў цягнік: такой цісканіны нават у нас не пабачыш. Пытаюся: “Што гэта?.. Я не пазнаю немцаў. Як такое ўвогуле магчыма?” Выдавец кажа: “Чалавек вось такі, калі яму кепска, калі яму нешта трэба, калі нечага мала, калі трэба дзяліць. А вы думаеце, што гэта савецкая праблема”.

Я спадзяюся, літаратура можа перараканаць людзей, што трэба глядзець шырэй на рэчы, што сапраўды свет не такі просты, што ёсць цёмны бок мастацтва. Мастацтва, якому аднолькава цікавыя і Берыя, і адзін з маіх герояў, які камандаваў расстрэламі. Ён распавёў, што энкавэдэшнікі стамляліся і не маглі працаваць, пакуль у атрадзе не з’явіўся масажыст — масажыравалі ўказальны палец…

Жыццё складанае. А мы — і вось гэта дакладна спадчына савецкага часу — хочам дакладных і хуткіх адказаў. Але ж свет такі, што чым сур’ёзней у яго ўглядаешся, тым меней у ім адназначных адказаў. Іх увогуле няма. Вядома, ёсць дабро і зло, і, як казаў Дастаеўскі, яны змагаюцца ў чалавечым сэрцы, але не існуе ў прыродзе хімічна чыстага зла і хімічна чыстага дабра. Яны распылены дробнымі часцінкамі па ўсім свеце. Мой улюбёны прыклад — гісторыя хлопчыка, які любіў цёцю Олю. І толькі калі ён вырас, маці распавяла, што гэтая жанчына данесла на роднага брата і той загінуў у Калыме. Хлопчык (ужо студэнт) прыехаў да цёці Олі і запытаўся, навошта яна гэта зрабіла. Яна сказала: “Паспрабуй знайсці ў сталінскі час сумленнага чалавека”. Тады ён запытаўся, што памятае яна пра 1937 год. Жанчына раптам усміхнулася: “Гэта быў самы шчаслівы год майго жыцця. Я кахала, мяне кахалі…” Разумееце? Зло — гэта не толькі Берыя, але і цёця Оля. На тым стаіць свет».

### ГЕРОЙ НА ДЫБАЧКАХ

«Папракаюць, што людзі ў маіх кнігах размаўляюць непраўдзіва прыгожа. Але справа ў тым, што я шукаю чалавека ўзрушанага, і часцей за ўсё ён альбо заспеты смерцю, альбо знаходзіцца ў стане любові. І тады чалавек становіцца на дыбачкі, ён вышэйшы за сябе самога. І тады ён гаворыць вельмі добра».

### УСПАМІНЫ

«Я вырасла ў вёсцы, сярод простых людзей… Дасюль вельмі люблю гэтых старых, асабліва жанчын, іх твары. З імі звязаныя самыя любімыя мае ўспаміны. Адзін з іх: жанчыны вяртаюцца з працы і спяваюць, а за імі следам ідзе брыгадзір і плача. Мужчыны, што былі з ім, распытваюць, што такое, мова, напіўся?.. Але справа не ў тым: “Яны ж анічога не атрымаюць. Цэлы дзень працавалі, цяпер во спяваюць, а толькі палачкі пастаўлю — і нічога яны не атрымаюць…”»

### ШЧАСЦЕ

«Маё шчасце, што многія кепскія рэчы — зло, раўнасць і падобнае — я прапускаю міма сябе. Для мяне яны існуюць толькі на ўзроўні інтэлектуальным, як аб’екты для размовы. А калі апускаюцца да цёмнага, банальнага ўзроўню — неяк самі знікаюць са свядомасці».

### КНІГІ ВЯРТАЮЦЦА

«За апошнія тры месяцы я была ў пяці еўрапейскіх краінах, і паўсюль мне казалі: “Ведаеце, цяпер зноў прыйшоў час кнігі”. Людзям патрэбная кніга. Менавіта кніга, а не электронны аналаг. Бачу нават па сваіх тыражах — і справа не толькі ў набеліянстве, але і ў гэтых павевах, у патрэбе людзей. Для кнігі прыйшло другое жыццё — пра гэта кажуць і выдаўцы, і пісьменнікі. Але ў нас, здаецца, і не было асаблівага з ёй разрыву».

### СПЕЦЫФІКА ЖАНРУ

«Жанр, у якім я працую, — гэта не інтэрв’ю, як некаторым хацелася б. Не. Я прыходжу да чалавека — і мы вядзём размову пра жыццё. Калі я адчуваю, што гэта той чалавек, якога не хапала для маёй кнігі, што гэта тая самая неабходная цаглінка, я прыходжу да яго і пяць, і сем разоў. Гэта надзвычай складаная праца. Для таго, каб з чалавека дастаць новае, трэба прыйсці да яго цікавым, не абыходзіцца банальнасцю, якой і так хапае. Трэба разам з ім прайсці гэты шлях у сябе, бо менавіта падчас размовы ўзнікае тая электрычнасць, якая нараджае нейкія здагадкі, калі словы і сэнсы счэпліваюцца. Трэба здабыць новыя веды. Да чалавека нельга прыйсці паўпустым ці задавальніцца нейкімі напрацаванымі прыёмамі. Так, я прафесіянал, але прафесіяналізм — гэта якраз тое, што на час працы трэба забыць. Павінна ўзнікнуць “трымценне таямніцы”. Вы павінны дайсці да стану абсалютнай недасведчанасці, каб адкрыць тэму — напрыклад, вайну — наноў. Каб у суразмоўцы з’явіліся кураж, азарт. Можна пачуць: “Прыйшла вайна, савецкія жанчыны пайшлі на фронт і мы, дзяўчаты, таксама…” А вось каб чалавек раптам усклікнуў: “А ты ведаеш, што я ўзяла на вайну?.. На ўсе грошы купіла шакаладных цукерак і паехала з гэтым чамаданам на фронт!” Для гэтага трэба, каб суразмоўца зразумеў: вышыня быцця нараджаецца не з нейкіх напышлівых рэчаў. Не. Яна пачынаецца з таго, што ты азіраешся і раптам разумееш: жыццё загадкавае, таямнічае, і нічога ў ім нельга прадказаць».

### МОЛАДЗЬ І ПРЫВАТНАЕ ЖЫЦЦЁ

«Платонаў называў моладзь “свежым часам”. Яны зусім іншыя, сярод іншых машын, адзення, тэхнікі. У іх абсалютны разрыў з савецкімі каштоўнасцямі і нават тымі нацыянальнымі каштоўнасцямі, да якіх мы яшчэ не прыйшлі. Маладыя занятыя тым, што проста жывуць. Культ прыватнага жыцця. Спачатку я ставілася да яго пагардліва. А потым прызнала, што не маю рацыі, гляджу на гэта не як мастак, і ўрэшце зразумела, што гэта неверагодна цікавая рэч — прыватнае жыццё. Проста мы ніколі не жылі так. Мы заўжды былі недзе на вуліцы.

> *Жыццё складанае. А мы — і вось гэта дакладна спадчына савецкага часу — хочам дакладных і хуткіх адказаў. Але ж свет такі, што чым сур’ёзней у яго ўглядаешся, тым меней у ім адназначных адказаў. Іх увогуле няма.*

Любоў, харäство рэчаў, прыгожая кватэра, жаданне паехаць у той жа Егіпет… Сэнс жыцця неабавязкова браць з марксізму-ленінізму ці нацыянальных адкрыццяў. Але зразумець маладых цяжка, бо, калі пачынаеш з імі размаўляць, яны адказваюць неасэнсавана, паспешліва, канцэнтруюць увагу на дзеянні і руках. Зусім іншая справа — размаўляць пра вайну з жанчынай, якая прайшла яе трыццаць гадоў таму і мела процьму часу на роздум.

Я займаюся дакументацыяй пачуццяў. Але дакумент душы не існуе як шклянка ці пашпарт: чалавек распавядае — і стварае сябе. Трошку сябе прыдумвае, трошку дадае ілюзій... Для гэтага патрэбная трэніраванасць душы, трэніраванасць жыццёвымі выпрабаваннямі. Гэтага ў моладзі, вядома ж, пакуль няма».

### НЕЗРАЗУМЕЛЫЯ МУЖЧЫНЫ

«У маіх ранейшых кніг быў пэўны магніт, вакол якога збіраліся падзеі і людзі. А цяпер я працую з дзвюма тэмамі: каханне — і старасць і смерць. Цяпер складаней сабраць тое, што можа быць літаратурай, скласці кнігу. Таму падчас выступаў я кажу: калі ёсць людзі, якія думаюць пра гэта, хацелі б пра гэта пагаварыць, я была б вельмі радая.

Пра каханне лёгка распытваць — а ты паспрабуй распавядзі. Я заўжды думаю: якія цудоўныя людзі, што размаўляюць са мной! Невядома, як бы я сама адказвала на тыя пытанні. І, кажучы пра гэтую работу, мне найцяжэй зразумець маладых… і мужчын. Расповеды мужчын пра каханне — гэта складана...

А старасць — гэта ж не толькі лецішча, дзеці, круціць банкі… Гэта не філасофія жыцця — гэта філасофія нежыцця, неразумення сябе, некаштоўнасці сябе».

«…Што такое любоў для мяне? Як і для ўсіх: такое суцяшэнне ад Бога, каб не страшна было паміраць».

### ФОРМА ДЛЯ НАРОДА

«Нас затрымалі ў часе. Калі мы вывучалі марксізм-ленінізм і ролю асобы ў гісторыі, лічылася, што маса і ёсць галоўная дзейная асоба. Цяпер мы бачым, што яна можа няшмат. Для мяне гэта сталася галоўным адкрыццём паслясавецкага перыяду. Нехта заўжды надае масе форму. Рускі народ мае пра сябе такую прымаўку: “З народа можна зрабіць і дубіну, і абраз”. Нешта падобнае можна сказаць і пра нас, хоць мы не маем такой рашучасці ў ментальнасці.

У нас такі сабе “культ асобы” пакутаў, я б сказала. Пакуты і ў нашым праваслаўі, і ў літаратуры… Але мне ўсё больш здаецца, што пакуты ламаюць чалавека, затрымліваюць развіццё, змяншаюць яго. Так, у вялікай спрэчцы рускай літаратуры Салжаніцын казаў, што пакуты, лагернае жыццё ўзвышаюць чалавека, а Шаламаў цвердзіў: лагер разбэшчвае і ката, і ахвяру. Ахвяра і кат яднаюцца ў падзенні. Нешта падобнае адбылося з намі. Усе мы саўдзельнікі. Не так шмат дэсідэнтаў выказала нязгоду — большасць заключала з сабой дамову. А свабода жорсткая рэч. Яна не нараджаецца з лозунгаў і сядзення на кухні».

### СТАСУНКІ З НЯБЁСАМІ

«Я не рэлігійны чалавек у тым сэнсе, які цяпер можна назіраць у Расіі. Гэта ўсё ж вельмі асабістае, што датычаць толькі цябе і неба. Вось згубіла я сястру — і куды глядзець? Толькі на неба. Куды ісці? Толькі ў царкву. Не існуе ніякага іншага чалавека, да якога можна было б з гэтым прыйсці. Гэтаксама, напэўна, і з каханнем. Як прызналася адна з маіх герань: “Калі я закахалася, я магла распавесці пра гэта адной маленькай дзяўчынцы на пляжы. Яна сядзела і слухала”».

### ДОМ

«У мяне больш як 200 выданняў у свеце на амаль што 70 мовах, і мне гэта і радасна, і прыемна, але быць сярод сваіх людзей… Чаму я вярнулася з Еўропы? Магла застацца ў Германіі, Францыі. Але я хацела жыць дома. Еўрапейцы больш вольна ставяцца да такіх рэчаў, жывуць у нейкім агульным свеце. Але я пішу менавіта пра гэты свет, і мне трэба жыць у ім. Дый мой галоўны чытач, напэўна, тут. Хоць увогуле людзі аднолькавыя: хочуць зразумець свой час, зразумець небяспеку, зразумець, колькі ім патрэбна мужнасці».

### ГАЛОЎНАЕ ПЫТАННЕ

«І найгалоўнейшае пытанне — пытанне нацыі. Мова, літаратура, культура… Каб стаць паўнавартаснай нацыяй. Заявіць пра сябе. У савецкі час ва Украіне ўсе размаўлялі па-руску. Сёння — усе размаўляюць па-ўкраінску і па-англійску. Нацыя можа зрабіць рывок, гэта магчыма! А часу не так шмат: мы і без таго прыпозненая нацыя, а час набірае ходу».

### ЗАКЛЮЧНАЕ СЛОВА

«Жыць вельмі цікава — нягледзячы ні на што. І трэба памятаць, што яно ў цябе адно такое — жыццё. Так, даводзіцца быць чалавекам свайго часу, з яго не выскачыш. Знаходзіць сілы заставацца чалавекам. І абавязкова трэба пастарацца быць шчаслівым. Не зламіцца. Прыйдуць новыя часы — і яму будуць патрэбныя новыя людзі».

**Уладзімір ГОРЫНЬ**

*У пісьменніцкім асяродку*

# Не толькі вершы пра вясну

Свята паэзіі і музыкі «Сакавіны» ўжо ў 19-ы раз прайшло ў Зэльве, што на Гродзеншчыне. Ініцыяваў урачыстае дзейства ўраджэнец Зэльвеншчыны, намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Нёман», паэт Уладзімір Мазго. Акрамя сваёй творчасці, ён прадставіў публіцы кнігу земляка Юркі Голуба «Птушыны радавод», якая зусім нядаўна пабачыла свет у Выдавецкім доме «Звязда».

Разам з Уладзімірам Мазго на імпрэзу завіталі пісьменнікі Мікола Чарняўскі, Яна Явіч і Генадзь Аўласенка, спявак, саліст ансамбля «Свята» Вячаслаў Статкевіч. Госці-літаратары распавядалі пра старонкі свайго жыцця, пра шлях у літаратуру, выдадзеныя кнігі і, канечне ж, падарылі ўдзячнай публіцы ўласныя вершы. Дарэчы, Мікола Чарняўскі прыгадаў, што ўпершыню наведаў Зэльву больш як паўстагоддзя таму — у 1963 годзе! «Я прыехаў у камандзіроўку маладым супрацоўнікам радыё для беларусаў за мяжой, рэдакцыя якога на той момант толькі-толькі была створана», — падзяліўся ўспамінамі Мікалай Мікалаевіч.

У наступным годзе ў Зэльве маюць адбыцца юбілейныя, дваццатыя, «Сакавіны».

Падчас чарговага пасяджэння літаратурнага клуба «Аўтограф», пастаянная пляцоўка якога — інтэрнат № 8 Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта, студэнты пабачылі пастаноўку «Начная перапіска» паводле аднайменнага твора паэтэсы і празаіка, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Анастасіі Кузьмічовай. Новы спектакль выклікаў у моладзі вялікую цікавасць. Акрамя самой аўтаркі, у пастаноўцы ўдзельнічалі празаік Мікалай Васілеўскі і паэт Дзмітрый Юртаеў.

Пры канцы імпрэзы госці прадставілі сябе ўласнымі вершамі, сур'ёзнымі і гумарыстычнымі. Дарэчы, Дзмітрый Юртаеў таксама піша вершы для дзяцей.

Днямі ў госці да навучэнцаў гуртка «Журналістыка» Палаца дзяцей і моладзі «Золак» завітала паэтэса, празаік, сябар СПБ Жанна Мілановіч. Пра гэта рэдакцыі «ЛіМа» распавялі гуртко ўцы Яўген Карнялюк, Алена Роліч і Яўгенія Бачыла.

Размова падчас сустрэчы ішла не толькі пра вясну і каханне, яшчэ і пра вайну. Апошняя тэма асабліва хвалюе Жанну Мілановіч, бо цесна звязаная з гісторыяй яе сям'і. У сваёй творчасці пісьменніца закранае самыя розныя тэмы: і красавіцкую трагедыю 2011 года ў сталічным метро, і псіхалогію сяброўскіх стасункаў…

**Дзіна ДОЛЬСКАЯ**

# Артыстычнае супадзенне

Паэтычны тэатр «Арт.С» узнік 10 год таму дзякуючы ініцыятыве маладых творцаў. Пачаткам сталася прома-акцыя «Моладзь ідзе», якую зладзілі ў бібліятэцы імя Цёткі Зміцер Арцюх і Аксана Спрынчан. І сама Цётка, і загадчыца бібліятэкі Рэгіна Багамолава натхнілі і паспрыялі таму, што тэатр «Арт.С» застаўся жыць на Талбухіна, 12 А, хоць некаторыя праекты ладзяцца ў Музеі Максіма Багдановіча ў Траецкім прадмесці.

Тэатр пачынаецца з назвы. У назве «Арт.С» — свабода творчасці, артыстычная свабода, свята, святло, сустрэча, сяброўства, сонца, супадзенне… Тэатр прапануе літаратурна-музычныя вечарыны, прэм'еры кніг, выставы выяўленчага, дэкаратыўна-прыкладнога і фотамастацтва. Дарэчы, і да 10-годдзя тэатра ладзіцца фотавыстаўка «Свята 10-годдзя» Міколы Лінніка і Васіля Кузьмічкіна, фатографаў Паэтычнага тэатра «Арт.С».

За 10 гадоў у тэатры выступілі каля 200 беларускіх творцаў. Кожны глядач, які прыходзіць у тэатр, шукае сябе ў беларускай паэзіі і музыцы. У тэатры адбываецца шмат асобных спектакляў-прэзентацый кніг. Але ўражваюць і тэатральныя праекты. Незвычайна ўдалым атрымаўся задыякальна-паэтычны праект "12 сузор'яў", калі цэлы год са снежня 2007 па лістапад 2008 штомесяц тэатр ладзіў вечарыну, прысвечаную пэўнаму знаку задыяка. А ў 2009 годзе Паэтычны тэатр «Арт.С» пастанавіў жыць паводле свайго, а не ўсходняга календара, распачаўшы 12-гадовы праект «Святкуйма беларускае!»

Былі ў тэатры «Арт.С» і свае «Сем цудаў Беларусі» — сем вечарын пра найбольш адметныя і каштоўныя цуды Беларусі: Сафійскі сабор, Нясвіжскі палац, возера Нарач, балоты, рака Нёман, Мірскі замак, Белавежская пушча.

«Сакральная Беларусь» — паэтычна-міфалагічны праект, у якім творцы і навукоўцы дзеляцца святлом сакральнага свету Беларусі. Дарогі, дрэвы, ручнікі, камяні, мёд, агонь, неба, кветкі, хутары, вёскі, колеры — усё, да чаго дакранаюцца душой удзельнікі Паэтычнага тэатра «Арт.С», артыстычна светлае і святое, у ім жывуць Паэзія і Музыка, Любоў і Каханне.

**Алег ГРУШЭЦКІ**

# Малыя Каласавіны



*Фота Кастуся Дробава.*

*Работа ў адной з секцый.*

Амаль сто ўдзельнікаў сабрала першая навукова-практычная канферэнцыя навучэнцаў сярэдніх школ і гімназій Беларусі, прысвечаная 110-годдзю творчай дзейнасці Якуба Коласа.

Арганізатарам канферэнцыі выступіў музей пісьменніка, аўтар ідэі — настаўніца Святлана Таранда (сталічная гімназія № 192). Пачалося з таго, што настаўніца і яе падапечныя засталіся незадаволенымі вынікам раённай каферэнцыі: падрыхтавалі сур'ёзнае даследаванне па публіцыстыцы Коласа гадоў Вялікай Айчыннай вайны, прапрацавалі вялізны аб'ём матэрыялаў, але работа засталася без належнай увагі. З ідэяй аб правядзенні «малых Каласавін» Святлана Сцяфанаўна звярнулася ў музей, і тут яе актыўна падтрымалі. Прычым такога маштабу падзеі ніхто не чакаў: канферэнцыя сабрала 98 удзельнікаў, якія прадставілі 66 дакладаў. Цікава пры гэтым, што канферэнцыя так і не займела назвы.

Урачыстае адкрыццё адбылося ў Інстытуце гісторыі НАН Беларусі. Удзел у ім узялі ганаровыя госці: галоўны спецыяліст упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры Людміла Лебедзь, дырэктар — галоўны рэдактар РВУ «Выдавецкі дом "Звязда"» Алесь Карлюкевіч, дырэктар Нацыянальнага інстытута адукацыі Аляксандр Важнік, паэт Міхась Пазнякоў.

Дырэктар музея-арганізатара Зінаіда Камароўская запэўніла: у матэрыялах для даследчыцкай працы недахопу няма. Прыкладам, не так даўно атрыманая перапіска Якуба Коласа і Аляксея Новікава-Прыбоя. Ёсць і фактычныя нагоды: сёлета адзначаецца 110 гадоў з правядзення настаўніцкага сходу на Стаўбцоўшчыне, таксама — 60 гадоў з часу напісання славутага ліста Коласа ў ЦК. На эпісталярную спадчыну класіка звярнуў увагу і Аляксандр Важнік. Ён жа прапанаваў яшчэ адзін кірунак дзейнасці — збор афарыстычных выказванняў Якуба Коласа. Але, як адзначыла Людміла Лебедзь, «галоўная мэта — стаць не акадэмікам, але чалавекам, неабыякавым да сваёй краіны».

На што звярнулі ўвагу юныя даследчыкі? Многія тэмы паўтараюцца: апісанні родных мясцін у творах Якуба Коласа, маральны аспект яго твораў, тэма мастака і мастацтва, педагагічныя таленты аўтара, грамадзянскае гучанне твораў, ваеннае жыццё паэта і г. д. Аднак ёсць і арыгінальныя даследаванні, прыкладам, адлюстраванне калядных традыцый у «Новай зямлі», музычная лексіка ў творах Якуба Коласа, урбаністычная тэма. Удзел у першай такога роду канферэнцыі ўзялі не толькі школьнікі і гімназісты сталіцы, але і даследчыкі з Пінска, Жлобіна, Лунінца, Чэрвеня, з Пінскага, Петрыкаўскага і Буда-Кашалёўскага раёнаў.

Усе даследчыкі атрымалі сертыфікаты ўдзельнікаў, а па выніках канферэнцыі да канца года будзе выдадзены зборнік дакладаў.

**Наста ГРЫШЧУК**

### Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:

**22 красавіка** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікамі Міхасём Пазняковым і Генадзем Аўласенкам у Магілёўскі дзяржаўны ўніверсітэт (вул. Касманаўтаў, 1). Пачатак а 12-й гадзіне.*

**22 красавіка** — *на вечар духоўнай паэзіі і песні «У чаканні Светлага дня» з удзелам групы паэтаў і бардаў у Палац мастацтва (вул. Казлова, 3). Пачатак а 17-й гадзіне.*

**25 красавіка** — *на тэматычную творчую імпрэзу «Балючая памяць Чарнобыля» з удзелам пісьменніка Анатоля Зэкава ў дзіцячую бібліятэку № 15 (вул. Слабадская, 27). Пачатак а 13-й гадзіне.*

**26 красавіка** — *на свята дзіцячай кнігі ў публічную бібліятэку № 13 (вул. Народная, 43а). Пачатак а 12-й гадзіне.*

**26 красавіка** — *на тэматычную творчую імпрэзу «Вецер чарнобыльскі горкі» з удзелам паэтаў Паўла Шруба ды Іны Фраловай у СШ № 77 (вул. Крупскай, 10). Пачатак у 14.15.*

**26 красавіка** — *у Цэнтральную гарадскую бібліятэку імя Я. Купалы (вул. В. Харужай, 16) на творчую сустрэчу з пісьменнікам Анатолем Зэкавым, прымеркаваную да 30-й гадавіны Чарнобыльскай трагедыі. Пачатак у 16.20.*

**27 красавіка** — *на літаратурную імпрэзу «Аварыя сумлення» ў Мінскі гарадскі навучальна-аздараўленчы цэнтр «Лідар» (г.п. Ждановічы). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**27 красавіка** — *у Мінскі гарадскі тэатр паэзіі пры Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Я. Купалы (вул. В. Харужай, 16) на творчы вечар пісьменніка Навума Гальпяровіча «Душа імкнецца да душы». Пачатак у 17.30.*

**28 красавіка** — *на творчую сустрэчу з пісьменніцай Наталіяй Касцючэнка «Чарнобыль праз 30 гадоў…» у публічную бібліятэку № 21 (вул. Слабадская, 63). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**28 красавіка** — *на свята дзіцячай кнігі з і выстаўку кніг выдавецтва «Народная асвета» ў СШ № 24 (вул. Прушынскіх, 48). Пачатак а 10-й гадзіне.*

### Мінскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**25 красавіка** — *на сустрэчу сяброў аддзялення з навучэнцамі Вілейскай гімназіі № 2 (вул. Чапаева, 65) у межах «Экалагічнага тыдня». Пачатак а 12-й гадзіне.*

### Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**27 красавіка** — *на вечар-рэквіем «Чарнобыль у нашай памяці» з удзелам віцебскіх пісьменнікаў (да 30-годдзя Чарнобыльскай трагедыі) у абласной бібліятэцы імя У. І. Леніна (вул. Леніна, 8а). Пачатак а 14-й гадзіне.*

### Гомельскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**26 красавіка** — *на агляд твораў гомельскіх аўтараў «Чарнобыля злавесны лёс» (да 30-годдзя Чарнобыльскай трагедыі) у бібліятэку-філіял № 1 г. Гомеля (вул. Свірыдава, 43). Пачатак а 12-й гадзіне.*

### Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**26 красавіка** — *на чарговае пасяджэнне грамадскага дыскусійнага клуба «Словадром», прысвечанае Сусветнаму дню кнігі, у залу пасяджэнняў Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкі імя Я. Карскага (вул. Замкавая, 20). Тэма дыскусіі — «Кніга vs Інтэрнэт». Пачатак а 17-й гадзіне.*

**27 красавіка** — *на круглы стол «Кніга — дзецям» па праблемах дзіцячай літаратуры і паэтычную гасцёўню з удзелам дзіцячых пісьменнікаў Гродзеншчыны, бібліятэкараў школ і юных чытачоў у дзіцячы філіял Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкі імя Я. Карскага (вул. Савецкая, 25). Пачатак у 11.00.*


# ЗАЛАТЫ ЎЗРОСТ — УЗРОСТ ТВОРЧЫ

**Калі штодзённы кругаварот спраў раптам адпускае цябе на заслужаны адпачынак, спачатку адчуваеш цалкам зразумелы дыскамфорт. І не дзіўна — бо ў жыцці з'явіўся вольны час. Падумаць, успомніць. Вярнуцца да адкладзеных у юнацтве мараў. Адшукаць у сабе новыя таленты. Хтосьці пачынае актыўна цікавіцца здаровым ладам жыцця, хтосьці знаходзіць аднадумцаў у захапленні моднай скандынаўскай хадой, хтосьці спявае... І, напэўна, не сакрэт, што многіх захапляе літаратурная творчасць. На тое ёсць важкія падставы: вопыт пражытых гадоў дае нямала цікавых сюжэтаў. А нехта пачынае пісаць вершы: толькі, вядома, не такія, як у юнацтве, а глыбока абдуманыя, узважаныя.**

Чытаюць іх, раскрываючы запаветныя сшыткі, сваім родным, сябрам і знаёмым. Але ж хочацца ўбачыць свае творы і надрукаванымі. Толькі дзе? Асабліва калі піша чалавек не «раман з працягам», а пару-тройку вершаў за год? А калі сумняваецца ў сваіх сілах, але хацеў бы рызыкнуць надрукаваць невялікую падборку вершаў, апавяданне, урывак з вялікага твора? Каб пачуць думку чытачоў, ці варта працягваць.

Як быць, спытаеце? Не спяшайцеся засмучацца! У вас ёсць шанц на надрукаваны радок. Сабраць пад адну вокладку паўнапраўнага выдання (афіцыйна зарэгістраванага ў Кніжнай палаце Рэспублікі Беларусь) свае пробы пяра, сябе паказаць і на іншых паглядзець можа кожны ахвотны. Выдавецтва Аляксея Вараксіна прапануе вам такую магчымасць — паўдзельнічаць у выданні альманаха. Заплаціўшы параўнальна невялікую па цяперашніх мерках суму (200 тысяч бел. руб. за старонку), вы ўбачыце вашы творы надрукаванымі і бясплатна атрымаеце адзін асобнік альманаха, запаветнага «тоўстага часопіса», што пахне друкарскай фарбай, дзе ваша прозвішча ў спісе аўтараў. Захочаце падарыць блізкім такое выданне — звярніцеся ў выдавецтва. Мы паклапоцімся, каб вы змаглі купіць яшчэ некалькі асобнікаў.

У кожнага з вас з'явіцца шанц на надрукаваны радок. Каб даведаліся, каб памяталі. Каб у сямейным архіве засталіся не толькі фотаздымкі, але і часцінка вашай творчай душы.

**ВЫДАДЗІМ ВАШЫ ТЭКСТЫ:**

**успаміны, разважанні, вершы, прозу, навуковыя працы і іншае.**

Тэлефоны для даведак: 8017 **220-20-40;** 8029 **670-55-39;** 8029 **6-370-360.**

Паштовы адрас: **220065, г. Мінск, а/я 33, Выдавец ІП Вараксін А.М. (для альманаха «Вехі»).**

Пакіньце свой след!

УНП 100343635

# Сучасныя спалучэнні:

## пясок, неон і хімія

**Месцам дыслакацыі адразу трох мастацкіх праектаў (эмацыянальныя выказванні, смелыя эксперыменты, філасофскія разважанні) стаў Нацыянальны цэнтр сучасных мастацтваў. Чатырнаццаць аўтараў — і столькі ж спроб пашырыць контуры ўспрымання і прыпаднесці звыклае ў розных ракурсах. Зразумееце іх альбо не — не істотна. Мастацтва індывідуальнае, штосекунднае, цяперашняе, якое не прэтэндуе на эпахальнасць, гістарызм, непахіснасць. Гэта як «Жыццё ў пазыку» Рэмарка: паспець як мага больш, кінуць выклік паўсядзённаму, заключыць пары з часам…**



«Крызіс у раі» Ігара Цішына.

### НОВАЯ ФОРМУЛА

Тры мастакі сустрэліся на адной прасторы, і раптам з'явілася новая формула ўзаемаадносін, гарманічнае суіснаванне непадобных, але аднолькава пераканаўчых, індывідуальных творцаў. Сугучнасць задач і рознасць метадаў выканання. Гэта «Форма спалучэння $C_2N$» Барыса, Івана Сямілетавых і Валянціна Нуднова. Адмовіўшыся ад умоўнасцей і клішэ, яны не намагаюцца ўпісаць у сучасныя тэндэнцыі, а проста выказваюцца.

Барыс Сямілетаў ператварае ўбачанае ў метафары. Яго жывапіс блізкі да экспрэсіянізму. Зграя сініх птушак, сімвалаў шчасця, з чорнага камяка ператвараецца ў светлыя фігуры, што ўзлятаюць да сонца (карціна «Міграцыя»). Можа, нам усім патрэбна змена абставінаў? А вось «Нацюрморт»: натоўп цвікоў, сярод якіх адзін адарваўся ад статка. Упаў, зламаны. Але заўважны, іншы. Не безназоўны. Працуем над індывідуальнасцю?

Карціны яго сына, Івана Сямілетава, такія ж сімвалічныя, але месцамі нагадваюць ужо іншы стыль, прымітывізм, часта нияк па-даросламу казачны, меланхалічны. Погляд-накід, думкі-птушкі, што блукаюць, смешны, як з мульціка, чалавек сярод катоў, карыкатурныя кароль з каралевай каля крыніцы гора і радасці…

Трэці кампанент выстаўкі — Валянцін Нуднаў і яго геаметрычны, выверany спакой. Чорна-белае квадратнае каханне, супрэматычныя блікі на вадзе, масты Ліёна ў залацістай кругавой смузе… Ёсць толькі колеры, лініі і формы. Фігуры-эмоцыі рухаюцца, утвараюць шматгранныя кампазіцыі.

«$C_2N$» — гэта эксперымент. Мастацтва плаўнае, цякучае, схіленае да сімбіёзу, змен і трансфармацый. Даказана хімічнай навукай.

### ДЫЯГНОСТЫКА ПАХОДЖАННЯ

Філасофская гульня мастака з гледачом, яшчэ адна змена звыклага фармату, але больш рызыкоўная, адбываецца ў НЦСМ (Незалежнасці, 47) паверхам вышэй. Спакойна заходзіце ў залу, дзе на сценах павінны вісець карціны, а там — цемра. Рэзкія сінія ўспышкі святла перыядычна рассякаюць прастору, ператвараючыся ў вялізны гадзіннік з рухомым, амаль шалёным цыферблатам. Не пройдзеш, пакуль цябе не прасвануюць. А ці здолееш сам убачыць больш, чым звычайна? Кожны атрымае сваю дозу выпраменьвання… мастацтвам. А дзе ж карціны? Яны ёсць.

Побач са здымкамі, якія звычайна робяцца ў паліклініцы. Для антуражу. Каб убачыць звыклае, лепш падсвятліць ліхтарыкам. Гэта «Час як рэнтген» Васіля Зянько.

Аўтар прапануе адчуць, што ў свеце няма нічога пастаяннага, усё плыве па сваім курсе, мяняецца. Трэба ўмець глядзець на рэчы пад рознымі вугламі, часцей выходзіць з зоны камфорту. Выстаўка Васіля Зянько — гэта не проста «усе сюды, тут мае карціны», а спроба ўсталяваць дыялог, сказаць нешта большае, даць глебу для разважанняў. У кожнага яны свае. Гэта візуалізацыя секунд, хвілін, гадзін яркімі выбліскамі, спроба даць адчуць тое, што няўлоўна.

Калі адысці ад пэўнага эксперымента, Васіль Зянько — выдатны даследчык археалогіі нашага свету, жывапісец цалкам прыродны. Ён робіць зрэз зямной кары, агаляючы сэрца планеты ў чорна-чырвоных, пясочных, травяных адценнях, паказвае істот, якія жывуць на планеце, праводзячы паралелі з людзьмі.



Барыс Сямілетаў. «Міграцыя», 2016 г.

На яго карцінах шмат раслінных форм, вузлоў і перапляценняў, афрыканскіх матываў. Кветкі, жывёлы, насякомыя, рыбы — ніякіх намёкаў на тэхнагеннасць ці ўрбанізацыю. Гэта першароднае, звязанае з вытокамі, пазачасавае, а значыць, каштоўнае.

### ВОЛЬНЫ МІКРАФОН

Яны кажуць пра набалелае, інтымнае, але прапускаюць думкі скрозь сацыяльнае, агульнае, што хвалюе ўсіх. Імгненныя ўражанні побач з ідэямі, якія выношваліся гадамі. Яркія эмоцыі па суседстве з лагічнымі вобразамі. Псіхалагічныя адценні і дакладныя высновы. Сутнаснае і наноснае. Сатыра і драма. Пераўтварэнне рэальнасці і яе фатаграфаванне. Панарама і зрэз сучаснага беларускага (і не толькі) мастацтва. Сумесь звыклых і новых форм. Гэта — выставачны праект «Усё было па-іншаму», арганізаваны на пляцоўцы НЦСМ (Някрасава, 3). Рэалізуецца пры падтрымцы фонду «Ідэя». Генеральны партнёр — кампанія *VELCOM*. Куратарам выступіла Таццяна Кандраценка, каардынатарам — Ганна Самарская.

Чаму ўсё было па-іншаму? Выстаўка, занятая дзесяццю мастакамі, пабудавана на тлумачэнні асобных з'яў з катэгорый «памяць», «гісторыя», «дакумент». Фатографы, жывапісцы, скульптары тлумачаць, што няма нічога, што было б надзейным сведкам мінулага, таму што наша свядомасць пастаянна трансфармуе, перарабляе, адаптуе светаўспрыманне рэальнасці.

Здзейсніўшы памылку, мы робім высновы і ўжо не глядзім так фатальна. Адчуўшы боль ад здрады, выцісакем новымі эмоцыямі. Негатыўнае саступае месца нейтральнаму. Але на гэта патрэбны час. Звыкласць можа рассыпацца ўшчэнт і зусім хутка, калі да яе дакранецца мастак.

«Усё было па-іншаму» — гэта калекцыя фатаграфій, карцін, інсталяцый, арт-аб'ектаў, тэкставых і відэаработ, гульняў святла і ценяў. Матэрыялы нязвыклыя, нестандартныя: пясок і вада, неонавыя трубкі і вешалкі для адзення… Аўтары не толькі з Беларусі. Удзельнічае таксама Бельгія і Польшча. Коратка пра кожны з праектаў. Іх дванаццаць.

Дама эпохі адраджэння ператвараецца ў алоўкавы дзіцячы накід, затое ў пазалочанай раме. Як быццам ніхто і не заўважыць падвоху. Акварэльныя малюнкі ўрываюцца ў прастору фатаграфій. У вялізнай пясочніцы гуляюць дарослыя. Аўтары выступаюць тымі, хто іранізуе, і тымі, хто сур'ёзна і пільна даследуе.

«Антракт» Наталлі Залознай — перапынак паміж дзеяннямі, прастора без пачатку і канца, фіксацыя моманту. Відэаінсталяцыя «Ты ёсць толькі ты» Канстанціна Селіханава — роўд-муві, падзелены на дзве часткі. Зімовы пейзаж, што праплывае ў вокнах аўтамабіля і выглядае як гіпноз, паглыбленне ў сябе. Ідэальныя для разважанняў месцы.

«Уява святога Аўгусціна» таго ж аўтара — «сага» пра ўспрыманне чалавекам слоў у залежнасці ад іх адценняў, якія робяць з аднаго і таго ж спалучэння літар і праўбнае, і агіднае, а можа, зусім бессэнсоўнае. Канстанцін Селіханаў разважае пра сутнасць слова «рэвалюцыя». Адлюстраванае ў вадзе, яно губляе сваю агрэсію, жарсць і сілу, ператвараючыся ў ілюзію. Рэкламная афармоўка з неонавага святла ўзмацняе эфект надуманасці, робіць з заклiку, які павінен натхняць натоўпы людзей, нешта брэндавае і штучнае.

Вельмі асабіста гучыць «Поўнае маўчанне» Антаніны Слабодчыкавай, як форма прыняцця існасці. Спроба заархіваваць час і прастору. Адкладзеныя на паліцу разважанні пра смерць, якая забірае людзей.

Пра ролю прадметаў — «*Nomina Obscura*» Уладзіміра Парфянка. На стэндах размясціўся архіў пашпартных фатаграфій сярэдзіны 1990-х гадоў. Фармальны дакумент альбо красамоўнае пасведчанне пра рэальныя лёсы людзей? Усе яны застылі. Чакаюць запаветнага «выбуху» фотаапарата. Знешнасць ва ўсіх падобная, бо гэта абалонка. Унікальная толькі душа.

Ёсць на выстаўцы і тэкставая праца. «Панарама Жэнеўскага возера» Ігара Саўчанкі. Аўтар кажа пра гнуткасць стратэгій самаразвіцця сістэм. Нічога складанага. Гэта проста выпадак з прафесарам, які праязджаў уздоўж возера. Калі аўтамабіль стаяў, яму быў бачны толькі плот. У руху, наадварот, адкрывалася ўся панарама, перагародка станавілася празрыстай, прыроды. Любую праблему можна вырашыць: трэба толькі знайсці патрэбны ракурс.

Пра зменлівасць і ўмоўнасць — таксама ў «Дне» Таццяны Радзівілка. Гэта пясочніца з «тайнікам», адкуль усё выцякае ў варонку, але застаецца поўным. Проста гук у чорным пакоі — «Маша», зноў жа, Ігара Саўчанкі. Сага пра тое, як патаемнае лёгка становіцца публічным, тое, што «ўнутры», выстаўляецца напаказ. Іншы лаканічны праект — «Неверагодная выпадковасць, або Воля Божая». Аўтар, Марына Сабоўская, ілюструе зачацце чалавека чатырма здымкамі, якія ўтвараюць канфлікт. Космас, палёт, пацалунак, свята. Пустата ці нараджэнне?

Уражвае «Крызіс у раі» Ігара Цішына. Жывапіс па фатаграфіі. На здымках — аскепкі савецкай эпохі, супярэчнасць іх прысутнасці ў сучасным жыцці. Аўтар урываецца ў халодны, пакінуты і пастэрэлы рэалізм яркімі фарбамі. Ажыўляе пустыя вуліцы і брудныя фасады, паламаныя машыны і закінутыя домікі. Але гэта разбурэнне забытага раю.

Сугучная гэтай ідэі серыя фатаграфій «Касмадромы знікаюць» Аляксандра Цехановіча. Але тут проста фіксацыя, дакументаванне. Закінутыя свірны, стайні і збожжасховішчы часоў СССР выступаюць маўклівымі сведкамі мінулага. Сумнымі і велічнымі. Сарказм гэта ці не, зразумець складана.

Апошні праект — «Без назвы», з серыі «Нічога свайго» Міхаіла Гуліна. Ён спрабуе адказаць на пытанне, якое, між іншым, можа аб'яднаць усю выстаўку. Што самае каштоўнае: прадмет, вынік, прадукт ці сам факт мастацкага ўмяшання?

Выстаўка крытычна асэнсоўвае як ролю сучаснага мастацтва, так і аспекты яго ўспрымання. Мае зносіны з гледачом. Правакуе і выхоўвае. У рамках праекта арганізаваны лекцыі, сустрэчы і майстар-класы. Мастацкая пляцоўка пераўтворыцца ў дыскусійную, адукацыйную.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Цана пытання

## 45 мільёнаў за актуальны тэатр

**Такія грошы сабралі самі гледачы, якія хацелі пабачыць спектакль «Опіум». Спектакль, які не адводзіць ад рэчаіснасці, забаўляючы (насуперак назве), а задае пытанні. Спектакль, які наўрад ці пабачыў бы свет на сцэне якога-небудзь айчыннага рэпертуарнага тэатра. Таму яго стваральнікі пайшлі іншым шляхам: сталі шукаць тых, каму гэта цікава. І каму патрэбна. Сродкі для пастаноўкі збіралі праз платформу «Вулей», якая стваралася дзеля падтрымкі незалежных ініцыятыў і праектаў. Сабралі за лічаныя месяцы больш як 45 мільёнаў рублёў. Людзей, каму гэта патрэбна настолькі, што можна выкласці свае грошы, аказалася амаль 140 чалавек. Асобы, што зрабілі рэальны ўнёсак у змягчэнне беларускай тэатральнай сітуацыі: «Опіум», які паставіў Аляксандр Марчанка паводле п'есы Віталя Каралёва, стаў першым спектаклем, за з'яўленне якога гледачы прагаласавалі рублём у літаральным сэнсе.**

15 красавіка першыя гледачы пазнаёміліся на закрытым паказе з тым, што атрымалася ў выніку. На прасторы Палаца мастацтваў стварылі ўмоўную сцэнічную пляцоўку. Адлегласці ад гледача, які пасеў на крэслах, амаль няма. Адчуванне, што іграюць дзеля цябе і перад табой. Ці проста паказваюць кавалак з жыцця, якое ўрываецца ў рэчаіснасць, не пытаецца, якімі словамі да ВАС звяртацца. Мова спектакля — гэта мова вуліцы. Мова людзей брутальных, якія існуюць у цяжкіх абставінах. Нічога новага: мова, ад якой хочацца збегчы. Спрэс ненарматыў. Але ж слухай, калі прыйшоў (гвалт над асобай?). Трэба адседзець і выслухаць (папярэджваюць, што спектакль для тых, каму ёсць 18), каб зразумець, што такое гвалт над асобай, тым больш калі не папярэджваюць пра небяспеку больш страшную.

А гэта небяспека сучаснай вайны. Яна недзе ідзе. Не тут. Але ў яе можна ўцягнуцца нават на адлегласці. Як гэта здараецца з двума братамі, што жывуць у горадзе Рагачове. Але не ў назве горада справа (яна можа быць любой). Горад маленькі, працы няма. Старэйшы з братоў Коля (акцёр Максім Брагінец) губляе працу без магчымасці ўладкавацца і забяспечваць сям'ю: на ім маці з пенсіяй і малодшы брат Андрэй (Арцём Курэнь), які заканчвае школу і збіраецца паступаць у ВНУ. Галоўнае, каб прайшоў на бюджэт… Дзеля гэтага старэйшы брат, які папрацаваў нават магільшчыкам за капейкі, гатовы ехаць і завербавацца на працу ва Украіне. Маці (артыстка Юліяна Міхневіч) перажывае: там небяспечна. Не, ён будзе ў тыле, пераконвае сын. Ён харошы сын і брат.

Мы яго бачым, калі звязваецца з роднымі: у форме, але трымаецца вясёлым. Радуецца, што малодшы брат у яго разумны. Галоўнае, каб той паспяхова здаў тэсты і паступіў на гістфак, а Коля пра астатняе паклапоціцца. У гэты момант за яго неспакойна. Чакаеш бяды. Там.

А бяда можа напаткаць зусім не там. Вось што значыць гібрыдная вайна: яна не паміж краінамі. Яна ў розных краінах адначасова пускае свае шчупальцы, яна ў розумах людзей дае розныя адбіткі рэчаіснасці, якія прадстаўляюцца праз СМІ. Опіум для народа, ніяк інакш, — гэта прапаганда. Прычым, няважна, з якога боку. Для Стаса, сябра Андрэя, «тэлебачанне — гэта опіум для амерыканскага народа». Андрэй з ім спрачаецца, даводзіць адваротнае. Кожны з гледачоў у гэты момант удзельнічае ў спрэчцы ў думках, вызначаецца, хто з сяброў мае рацыю. І тут становіцца зразумела: вайна сама па сабе не мае рацыі. Гібрыдная вайна забівае нават на адлегласці. Таму што ідзе ў розумах. Ворага можна напаткаць ва ўласнай кватэры. Яна ж можа стаць полем бітвы, мінным полем, з якога не выйсці жывым…

П'еса не патрабуе згоды з кімсьці. Яна прапануе пагладзець з боку на ўсе падобныя спрэчкі. Магчыма, таму, што аўтар, Віталь Каралёў, проста прадставіў зрэз самых распаўсюджаных поглядаў на «ўкраінскую тэму», яго п'еса была ацэнена ў Расіі: трапіла ў шорт-ліст конкурсу новай драматургіі «Рэмарка». Але конкурс — адно, а ўвасабленне п'есы для гледача — іншае.



Сцэна са спектакля «Опіум».

Аляксандр Марчанка, які ўзяўся яе ўвасобіць як рэжысёр, разумеў гэта. Таму стаў шукаць тэатральную альтэрнатыву, дзе актуальную (нават публіцыстычную) тэму можна было б прадставіць праз найноўшыя сродкі ўвасаблення. Пры сцэнічным мінімалізме сярод усяго белага стварыць вобразы дапамагае тэхніка, якая на чысты белы экран выводзіць выявы — ці зямлі, ці зерня. Ці транслюе сеанс відэасувязі са старэйшым братам, якога мы бачым у камуфляжы. Зямля ёсць і ў сцэнічнай прасторы. Зямлёй кідаюцца адзін у аднаго героі, сыплюць «пясок у вочы», зямля іх харчуе, зямля і паглынае…

Ёсць пытанні, што зададзеныя не толькі стваральнікамі спектакля, пытанні, якія запушчаныя ў прастору (з яе ўласна і прыйшлі). Але ёсць пытанні і з пункту гледжання таго, як гэта агучана. У тым ліку і лексічныя: складана ўявіць, што выдатнік і харошы хлопчык размаўляе бруднымі словамі (хоць і не выключана, можа, я дрэнна ведаю моладзевае асяроддзе?). Ёсць пытанні наконт некаторых эпізодаў (відаць, адносіны малодшага з дзяўчынай патрэбны толькі дзеля французскай парфумы «Опіум», каб зайграла назва пастаноўкі). Але, з пункту гледжання актуальнасці, усё, што вельмі актыўна абмяркоўваецца ў беларускім грамадстве, тут пазнаецца. Тое, калі глядач можа ў тэатры паразважаць пра жыццё. Усё сапраўды падобна да дакументальнай гісторыі. Такіх спектакляў у нас мала, калі не адзінкі.

Таму людзі ахвяравалі грошы з разуменнем і жаданнем бачыць беларускі тэатр набліжаным да жыцця. І ведалі, на што ахвяравалі. П'еса была створана год таму падчас IV Міжнароднай драматургічнай лабараторыі, арганізаванай Цэнтрам беларускай драматургіі на чале з Аляксандрам Марчанкам. Віталь Каралёў (да таго часу аўтар нашумелых «Участковых…») са сваёй ідэяй зацікавіў журы. Але адназначылі яго якраз гледачы, якія галавасалі за п'есу. Яна можа падзяляць: нехта будзе катэгарычна «за», нехта — «супраць». Але раўнадушных не будзе: кожны імкнецца выпрацаваць сваё меркаванне ў дачыненні да тэмы. Могуць быць і спрэчкі, нават даволі жорсткія: і наконт тэмы, і наконт формы. Што ўжо казаць пра гісторыю двух братоў з маленькага беларускага горада. Іншае пытанне — калі і дзе можна будзе яе пагладзець яшчэ? Ажыццявіць праект у Беларусі дапамаглі ў Цэнтры візуальных і выканальніцкіх мастацтваў «АРТ Карпарэйшн», дзе ўжо была практыка працы над праектным тэатрам. Спектаклі час ад часу прадстаўляюцца гледачу, нават у рамках міжнародных тэатральных фестываляў. Праўда, гэта бывае зусім не часта. На актуальныя, даволі жорскія пастаноўкі трэба настроіцца. Трэба захацець шукаць адказы на пытанні, якія свярбяць недзе глыбока-глыбока ў душы.

Ларыса ЦІМОШЫК

---

*Не праміньце*

## Сур'ёзная канструкцыя

### «Дзве душы» — упершыню на сцэне




Гэта тое, чаго чакала тэатральная Беларусь з пачатку сезона. Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Янкі Купалы 26 і 27 красавіка прадстаўляе пастаноўку «Дзве душы» паводле аповесці Максіма Гарэцкага.

У ёй распавядаецца пра перыяд з 1890-х па 1930-я гады. Рэвалюцыя, Першая сусветная вайна і тое, як адбіліся гэтыя падзеі на лёсах людзей, — у цэнтры ўвагі аўтараў інсцэніроўкі Максіма Клімковіча і Уладзіслава Ахроменкі.

«Не кожны год адбываюцца рэвалюцыі і войны, спробы стварыць незалежную Беларусь, — напярэдадні прэм'еры патлумачыў рэжысёр пастаноўкі Мікалай Пінігін. — Гэта складана паказаць на сцэне, таму мы выбралі галоўнае. Дзеянне перанесена ў фотаатэлье, бо пачатак XX стагоддзя — эпоха чорна-белай фатаграфіі. Мы ўявілі персанаж самога пісьменніка, выкарыстоўваем у спектаклі здымкі і дакументы з архіва Радзіма Гарэцкага — пляменніка Максіма Гарэцкага, былога віцэ-прэзідэнта Акадэміі навук БССР».

«Назва аповесці "Дзве душы" толькі на першы погляд указвае на няпростую гісторыю двух галоўных герояў, што выраслі разам, — Ігната і Васіля. Усё на свеце мае, як мінімум, два бакі. Ён так пабудаваны: плюс-мінус, дзень — ноч, чорнае — белае, добрае — злое. Беларусь — краіна паміж Усходам і Захадам. Твор Гарэцкага — суцэльнае перапляценне метафар. Я ніколі не сустракаўся ў беларускай літаратуры з такой сур'ёзнай канструкцыяй», — адзначыў рэжысёр.

Над сцэнаграфічным рашэннем і касцюмамі працаваў народны мастак Беларусі Барыс Герлаван, музыка — Андрэя Зубрыча, харэаграфія — Наталлі Карчэўскай. Сяргей Тарасюк адказваў за відэарад.

У пастаноўцы задзейнічаная амаль уся мужчынская частка трупы, студэнты Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, дзеці з тэатральных студый — усяго каля 40 чалавек.

Спектакль ідзе на беларускай мове. Пры жаданні для гледачоў даступны сінхронны пераклад на англійскую і рускую мовы.

# Адлюстраваць сучаснасць

**Імя Віктара Красоўскага цяпер на слыху. Рэжысёр заканчвае працу над сваім новым фільмам «Душы мёртвыя», сродкі на які збіраліся з дапамогай краўдфандынгавай платформы, то бок у здымках пры жаданні мог «паўдзельнічаць» кожны.**
**Здавалася б, якая надзея можа быць на падобныя платформы? Падтрымліваць беларускае кіно наўрад ці пагадзіліся б многія — мала каго цікавіць укладанне сродкаў у стужкі, якія хутчэй за ўсё не будуць намініраваныя на «Оскар». А можа, нават у кінатэатрах не ўбачыш. Але «Душы мёртвыя» сталі доказам таго, што нам не ўсё роўна, што робіцца ў сферы айчыннага кіно, бо праект дастаткова хутка сабраў патрэбную для працы суму.**

## КІНО ПРА БЕЛАРУСАЎ

Ідэя стужкі нарадзілася яшчэ вясной 2015-га. Ужо ў студзені 2016 года здымкі былі скончаныя!

Асаблівасць «Душ мёртвых» у першую чаргу ў тым, што стужка знятая адным планам, і гэта вельмі незвычайна. Аднак сам Віктар Красоўскі так не лічыць:

— «Карцінка» заўсёды розная — здымай адным планам ці падзяляй на часткі. Гэта ж мастацкае кіно: здымаецца заўсёды незвычайна.

Пра што кіно? Пра беларусаў. Калі дакладней, пра жыццё беларускага прадпрыемства без выдумак і пафасу, пра людзей, якія спрабуюць справіцца з цяжкасцямі. Акрамя таго, што кіно пра нас, яно яшчэ і ў сваім родзе сацыяльны праект: у стужцы здымаліся людзі з абмежаванымі магчымасцямі.

— «Сацыяльны праект»? Калі ў нас гэта атрымалася, то нейк стыхійна: прадзюсары прапанавалі «прывабіць соцыум». Я б назваў такое кіно «сацыяльнай драмай». І гэта, напэўна, адзіная банальная рэч у праекце. Мы працавалі над ім, парушаючы ўсе метадалагічныя традыцыі, імкнучыся перадаць усё, што любім у кіно самі. Сцэнарый быў напісаны пад лакацыі, у якіх праходзілі здымкі, пад пэўную траекторыю руху камеры (а камера, удакладняе рэжысёр, рухаецца заўсёды). Тых, хто не выклаўся на здымачнай пляцоўцы, у групе не засталося.

## АДНОЙ КРЫВІ

Праект ажыццёўлены без фінансавай падтрымкі дзяржавы. Паводле Віктара Красоўскага, ніякай падтрымкі і не прасілі. Але пытанне фінансаў яшчэ і маральнае:

— Памятаю, як мне было добра, калі, лежачы на канапе, думаў пра тое, што ж перашкаджае нацыянальнаму мастацтву. Пакуль не прыйшоў да высновы, што «я» і перашкаджаю. І толькі калі пазбавішся ад гэтай «грамадскай нагрузкі думаць за нацыянальнае мастацтва», азірнуўся і зразумеў: гэта дзікі край, тут няма законаў. У тым сэнсе, што тут няма заканамернасцей, па якіх можа адкрыцца шлях мастака. Шлях мастака і так не просты, а спрабаваць чакаць падтрымкі ў пустэчах роўна самагубству. І я стаў часцей прамаўляць слова «я», якога доўга пазбягаў. Тут лёгка казаць «мы беларусы мірныя людзі» і складана — «мы з табой адной крыві, ты і я». Таму што свабода, тая, якая твая па праве, не пазначаная духоўна і, як следства, дорага абыходзіцца і табе, і тым, у каго ты, магчыма, яе адабраў. Таму мы, калі быць дакладным, не адмовіліся ад дзяржаўнага фінансавання — мы проста яго не прасілі.

Рэжысёр кажа, што, ускладніўшы адзін бок вытворчага працэсу, спрасцілі іншы. І не шкадуюць пра гэта.

Добры рэжысёр, аператар, сцэнарыст — палова поспеху, але многае залежыць і ад тых, хто на экране. Акрамя прафесійных акцёраў (так, напрыклад, у фільме зняўся Павел Харланчук) задзейнічаны і людзі з абмежаванымі магчымасцямі:

— Мэта нашай працы — якасць, а не падпісаны «акт выкананых работ». Здымаючы сацыяльнае кіно з удзелам людзей з інваліднасцю, мы не ставілі задачу ажыццявіць нейкія сацыяльныя праграмы. Я як рэжысёр рабіў асноўную стаўку на зносіны з усёй здымачнай групай, на натхненне, нягледзячы на тое, ёсць у цябе інваліднасць ці не.



Віктар Красоўскі.

## ДЫЯЛОГУ НЕ БУДЗЕ?

Калі ўлічваць, што «Душы мёртвыя» — праект сацыяльны, то можна спадзявацца, што ён паўплывае на адносіны да людзей з абмежаванымі магчымасцямі ў грамадстве. Акрамя забаўляльнай ці адукацыйнай, у кіно ёсць функцыя і сацыялізатарская: навучыцца разумець людзей лепш, чым да прагляду. Але Віктар Красоўскі лічыць, што ніякая сацыялізацыя тут не патрэбная, бо людзі, якія прынялі ўдзел у здымках, ужо сацыялізаваныя:

— Пазіцыя ў дадзеным пытанні павінна стаяць зваротная, сацыялізавацца павінна грамадства. Мы бачым, наколькі інтэнсіўна спансіруюцца ўсякага роду сацыяльныя праекты (у прыватнасці, па падтрымцы людзей з інваліднасцю па ўсім свеце). Адсюль пытанне: каму гэта выгадна? Дзяржаве, хутчэй за ўсё, не, а банкам... Мы самі павінны сацыялізавацца.

Такі праект, як «Душы мёртвыя» — рухавік перамен. Прынамсі, гэта было б добра. А што можна змяніць? Грамадства? Наўрад ці. Затое можна змяніць адносіны чалавека да сябе, кажа Віктар Красоўскі:

— Калі спрабаваць прагназаваць узаемаадносіны фільма і грамадства, то, я ўпэўнены, дыялогу не адбудзецца. Стужка не спрабуе змяніць соцыум, а проста кажа: «Грамадства, я заўважаю штосьці, што не заўважылі вы!». А вось ці дапаможа фільм і тым, хто ў ім удзельнічаў, і тым, хто яго паглядзіць, адчуць сябе ўтульней у свеце? Дакладна скажу адно: тыя, хто прымаў удзел у гэтым фільме, сталі лепш. Хаця... Пра сябе так не скажу.

Хто выстаўляе адзнакі за кіно? Сам сабе рэжысёр? Крытыкі? Журы на фестывалях? А можа, самая каштоўная адзнака — тая, якую атрымлівае стужка ад публікі, ад людзей? Можа, ад тых, хто зменіцца, паглядзеўшы кіно? У кожнага рэжысёра свой погляд на такое меркаванне:

— Глядач, вядома, задумаецца над чымсьці і ўбачыць сябе збоку. Але ці будзе ён нешта мяняць? Ёсць мэта выказацца, а змяняюць грамадства хай тыя, хто пачуе выказванне, калі гэта ім па сэрцы. Мы на падобнае і не разлічваем, галоўнае — мы не маўчалі. Я, напрыклад, нягледзячы на тое, што лічу кіно самым бессаромным спекулянтам на пачуццях, баюся думаць пра меркаванні гледача. Таму што я, як і ўсе, ад славалюбства не застрахаваны. Так што мне лепш адказаць, што кіно я раблю для сябе.

*» Калі ўлічваць, што «Душы мёртвыя» — праект сацыяльны, то можна спадзявацца, што ён паўплывае на адносіны да людзей з абмежаванымі магчымасцямі ў грамадстве. Акрамя забаўляльнай ці адукацыйнай, у кіно ёсць функцыя і сацыялізатарская: навучыцца разумець людзей лепш, чым да прагляду.*

## МЫ СТАНЕМ ІНШЫМІ

— Калі мы пачалі працаваць з людзьмі з абмежаванымі магчымасцямі, я злавіў сябе на думцы, што не магу глядзець ім у вочы, што баюся, і зрабіў выснову, што праблема не ў людзях, што яны такія, а праблема ў тым, што я баязлівец. І адсюль пытанне: якой якасці будуць дзеянні чалавека, калі ў справе, што робіць, ён баіцца? Гэта будзе крывадушнасць, як кажуць: «Праблема не ў тым, што не хапае пандусаў, праблема ў галовах». Пакуль праца над фільмам працягваецца, пакуль не пастаўлена кропка, у нас адбываюцца працэсы. Якімі мы будзем? Не ведаю. Але ў любым выпадку іншымі.

Праца ў «Душах мёртвых» людзей з інваліднасцю — свайго роду падтрымка, прызнанне, магчыма, апора. Удзел у здымках для кожнага чалавека можа стаць штуршком для далучэння да мастацтва, да творчасці, як і для супрацоўнікаў прадпрыемства «Арт-ідэя». Гэтыя людзі не далі нам шанцу — іх жыццярадаснасць нас абяззброіла.

## НАЦЫЯНАЛЬНАЕ

«Душы мёртвыя» — праект не проста сацыяльны, але і нацыянальны. Гэта яшчэ адзін здабытак у скарбонку айчыннага кінематографа, у скарбонку сапраўднага кіно, у скарбонку мастацтва ўвогуле. Але зараз межы паняцця «нацыянальнае мастацтва» такія расплывістыя, што цяжка вызначыць, што ўвогуле да яго адносіцца:

— Мастацтва ўзнікае паміж гледачом і мастаком. Калі хтосьці з іх не прыйшоў, то нічога і не было. А нацыянальнае мастацтва — гэта амаль тое ж самае, толькі глядач і мастак павінны быць адной нацыянальнасці і такія ж пытанні абмяркоўваць: што будзем рабіць з мовай? дзе нашая гісторыя? Нацыянальнаму мастацтву патрэбна веданне свайго роду, патрэбны патрыятызм. Думаю, праз год 70 нацыянальнае мастацтва падыме планку запатрабаванасці.

Запатрабаванасць навідавоку: чытаем і слухаем беларускае. Блізіцца і той час, калі беларускае пачнём стыхійна глядзець. Пытанне толькі ў тым, каб да нацыянальнага мастацтва быць падрыхтаваным — а пакуль што, здаецца, у нас з гэтым праблемы. Магчыма, «Душы мёртвыя» што-небудзь зменяць:

— Асноўная функцыя мастацтва, нават у дзяржаўным маштабе, — адлюстроўваць рэчаіснасць, і толькі малая яе частка павінна вырашаць ідэалагічныя і нацыянальныя пытанні. Але ў Беларусі ўсё наадварот. Усё нацыянальнае ў трэндзе? Сказаць, што сучасны аўтар баіцца адлюстроўваць сучаснасць так, як бачыць толькі ён, памылкова. І глядач акрамя палітычных падтэкстаў ды лозунгаў цікавіцца розным, чымсьці індывідуальным, патаемным. Магчыма, у нас унутры (за сябе скажу дакладна) ідзе нябачная барацьба паміж «беларусафіламі» і «беларусафобамі». І фіналу гэтай бітвы не відаць, бо абодва бакі не імкнуцца да перамогі, а вывесілі белы сцяг. Да нацыяналізму вядзе менавіта «філія», а я «гэтага-фоб». «Дык чаму не адмовіцца ад нацыянальнага?» — спытаў я сябе. Нельга. Таму што гэтая славутая самаідэнтыфікацыя прывядзе мяне да таго, што я «рускі». А з гэтым ужо я не пагаджуся. Можна адмовіцца ад самаідэнтыфікацыі, маўляў, «я грамадзянін свету». І вось тут мы паварочваем да таго ж пытання: адмовіцца ад нацыянальнага?! Ад «мовы»? Ад Скарыны? Ад Караткевіча? Ад Шагала? Ад Азімава? Ад Лары Кінга? Ад «Ворнер бразерс», нарэшце? Замкнёнае кола. Напэўна, менавіта таму ідзе бясконцае, бессэнсоўнае назапашванне нацыянальнага. І, мусіць, таму хочацца пазбегнуць размовы пра нацыянальнае мастацтва.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Натхненне ад поспеху

## ў турнэ па Беларусі Івана Карызны

**Зусім хутка стартуе турнэ віяланчэліста па Беларусі. Выпускнік Парыжскай кансерваторыі, лаўрэат міжнародных конкурсаў, які выступаў яшчэ нядаўна ў сталіцы Мексікі з сімфанічным аркестрам Марыінскага тэатра, вярнуўся на радзіму, каб прадставіць праграму з трох выступаў. Яго добра ведаюць яшчэ і як першага беларускага фіналіста класічнага «Еўрабачання» ў 2010 годзе. Суправаджаць ігру віртуоза падчас турнэ будзе аркестр Музычнага дома «Класіка».**



*Іван Карызна.*

У Мінску маладога музыканта можна пачуць ужо 26 красавіка ў Рэспубліканскім палацы культуры прафсаюзаў. Дырыжыруе аркестрам маэстра Іван Касцяхін. Канцэртмайстар — Алег Яцына. Да зорнага складу далучыцца яшчэ адзін таленавіты віяланчэліст — стыпендыят спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі Міхаіл Радунскі. Два музыканты выканаюць творы Роберта Шумана, Габрыэля Фарэ, Ёзэфа Гайдна, Антоніа Вівальдзі.

Такім чынам, атмасфера вечара будзе насычана аўрай адразу некалькіх эпох і краін — нямецкага рамантызму, французскага і аўстрыйскага класіцызму, італьянскага барока. Гэта наўмысны падыход з мэтай прадэманстраваць слухачам самае яркае, уражлівае ў музычнай спадчыне, зрэз адразу некалькіх эпох.

Івана Карызну і Міхаіла Радунскага аб'ядноўвае не толькі любоў да мастацтва. У іх адзін педагог — Уладзімір Перлін. Майстар вядомы тым, што рыхтуе ў Беларусі музыкантаў, якія потым заваёўваюць як сваю, так і еўрапейскую сцэны.

Дарэчы, Музычны дом «Класіка», які з'яўляецца арганізатарам выступаў, вядомы сваёй неардынарнай, сучаснай падачай акадэмічнай музычнай спадчыны Беларусі.

— У ліку праектаў нашай арганізацыі — фестываль «Класіка ля Ратушы» пад адкрытым небам, які працягнецца і гэтым летам. Менавіта Музычны дом «Класіка» арганізоўваў зімой гэтага года выступ трыа: на адной сцэне сустрэліся Іван Карызна, скрыпач Арцём Шышкоў і піяніст Кірыл Кедук. Білеты на шэсцьсот месцаў прадаліся поўнасцю — за тыдзень да пачатку канцэрта! Цяперашняе турнэ — натхненне ад поспеху. Чакаецца, што Кірыл Кедук таксама хутка выступіць сольна, — зазначыў дырэктар Музычнага дома «Класіка» Аляксандр Чахоўскі. Па яго словах, з білетамі ўвогуле адбываецца цікавая рэч. Напярэдадні турнэ Івана Карызны самімі актыўнымі аказваюцца рэгіёны, а не сталіца. «Публіцы, відаць, прасцей звярнуць увагу, напрыклад, на французскага музыканта, чым на свайго». І дарма.

У беларускага віртуоза, якога справядліва параўноўваюць з Растраповічам з-за майстэрскага, пачуццёвага, неверагодна насычанага выканання, разумення кожнага гуку, багатай мімікі, вельмі шчыльны гастрольны графік. Ён падарожнічае па ўсім свеце, выступаючы з такімі дырыжорамі, як Валерый Георгіеў і Уладзімір Співакоў, які, дарэчы, падарыў музыканту сапраўдны рарытэт — віяланчэль XIX стагоддзя.

Другі «прыпынак» для Івана Карызны — 11 мая, актавая зала Баранавіцкага дзяржаўнага ўніверсітэта. І, нарэшце, 12 мая, літаральна праз дзень, віяланчэліст прадставіць сваю праграму ў Драматычным тэатры Гродна. Турнэ праходзіць у рамках праекта «Сіла класікі *Volkswagen*» пры падтрымцы *Volkswagen* Беларусь.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Чараўніца віяланчэль

Разумець гэты інструмент з дзяцінства і дзяліцца захапленнем ад яго стараюцца ўдзельнікі ансамбля віяланчэлістаў «Дамінанта», створанага дзесяць гадоў таму пры дзіцячай музычнай школе мастацтваў № 17 сталіцы. Мяняюцца навучэнцы, прыходзяць новыя музыканты, і ансамбль не спыняе дзейнасці. Як і застаецца любоў да музыкі і адданасць інструменту ў тых, хто адчуў сутнасць яго чараўніцтва.

Усё дзякуючы настаўніцы музыкі. У дзіцячай музычнай школе мастацтваў № 17 Мінска вучаць іграць на народных, аркестравых інструментах, на фартэпіяна, ёсць харавы клас. Клас віяланчэлі з 1988 года вядзе Алена Уладзіміраўна Хамчонак, выпускніца Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. Менавіта яна ў 2006 годзе арганізавала ансамбль віяланчэлістаў «Дамінанта», у якім удзельнічаюць усе вучні: ад самых маленькіх да выпускнікоў. А ўжо ў 2007 годзе ансамбль стаў лаўрэатам III ступені Мінскага конкурсу-фестывалю «Вясеннія струны».

З таго часу ансамбль удзельнічае ў гарадскіх, рэспубліканскіх і міжнародных канцэртах і конкурсах (адзначаны дыпломамі і званнямі лаўрэатаў), у гэтым ёсць падтрымка дырэктара школы Мікалая Шэпеля, завуча Ларысы Барысенка, загадчыка струнна-смычковага аддзялення Віктара Шахназарана. Запомніліся ўдзелы ў міжнародным конкурсе «Скрыжаванне», што праходзіў у Мінску, «Лідскі вянок». «Дамінанта» выступала ў музеі Янкі Купалы, у мінскіх гарадскіх бібліятэках, у канцэртнай зале «Верхні горад».

Многія ўдзельнікі ансамбля звязалі жыццё з віяланчэллю. Напрыклад, Эдуард Радзвіловіч — студэнт другога курса Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі (клас дацэнта Н. Шпянёвай). У цяперашні час у музычным каледжы імя Глінкі навучаюцца Н. Сасноўская і А. Гімбатаў.



*Ансамбль «Дамінанта».*

Але нават тыя, хто не стаў прафесійным музыкантам, працягваюць іграць на віяланчэлі — ці для сябе, ці для іншых. Адзін з удзельнікаў першага складу ансамбля «Дамінанта» Андрэй Паўлавіч Тамкевіч працуе галоўным інжынерам у групе кампаній «*TIMIOP*», якая аказвае паслугі прадпрыемствам энергетычнага комплексу і прамысловасці. Пры такой адказнай працы ён не расстаецца з віяланчэллю: выступіў ініцыятарам стварэння і кіруе віяланчэльным «*One step trio*», у склад якога акрамя яго самога ўвайшоў Эдуард Радзвіловіч і іх настаўніца музыкі Алена Хамчонак.

Сёння ў ансамблі ўдзельнічаюць юныя музыканты Настасся Арлова, Соф'я Штанюк, Тэа Пташнікаў, Настасся Правальская, Стас Пятроўскі, Марыя Шыдлоўская, Цімафей Нічыпаровіч, Мілава Бабурына, Марк Калдушка, Аляксандра Пяткевіч (канцэртмайстар — піяніст А. Тышко). Сваё дзесяцігоддзе ансамбль віяланчэлістаў «Дамінанта» збіраецца адзначыць канцэртам, які адбудзецца 6 мая ў мастацкай галерэі імя Міхаіла Савіцкага.

**Марыя АСІПЕНКА**

# Музычная панарама тыдня: куды варта схадзіць?

### Захапленне вакалам

У канцэртнай зале «Верхні горад» ужо сёння, а сёмай вечара, адбудзецца канцэрт вакальнай музыкі «Жывыя галасы» ў маладзёжным фармаце. Можна будзе пачуць лепшых студэнтаў і магістрантаў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Праграма разнастайная: оперныя арыі, рамансы, песні як беларускіх, так і замежных кампазітараў. Акампанемент — фартэпіяна.

### Рок-юбілей

*Animal ДжаZ* адзначыць 15-годдзе ў Мінску лепшымі песнямі. Ужо 24 красавіка піцерскія рамантыкі, падаўжальнікі традыцый (асабліва ў стварэнні арыгінальных паэтычных тэкстаў) гуртоў «Сплін» і «Наўтылус Пампіліус», выступяць у клубе *RE: PUBLIC*. Нядаўні іх альбом, «Захавальнік вясны», стаў лепшым у катэгорыі «Рускі рок» па версіі *ITunes* Расіі. Стыль, напоўнены імправізацыямі і рытмічным, насычаным гукам кшталту *garage rock*, — іх нельга зблытаць ні з кім.

### Велічны «Рэквіем»

Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы і балета Беларусі 26 красавіка прадстаўляе «Рэквіем» Джузэпэ Вердзі. Гэты твор, напісаны ў жанры памінальнай месы, не так часта гучыць у Беларусі. Але ёсць дні, калі асабліва адчуваецца трагізм і псіхалагічная тонкасць гэтага маштабнага твора, напісанага для чатырох салістаў, хору і аркестра. На сцэну выйдуць салісты Настасся Масквіна (сапрана), Аксана Волкава (меца-сапрана), Аляксандр Міхнюк (тэнар), Андрэй Валенцій (бас). Дырыжор — Вячаслаў Воліч. У дзень 30-годдзя Чарнобыльскай аварыі «Рэквіем» Джузэпэ Вердзі разам з адчуваннем трагізму надзяляе надзеяй і верай у лепшы іншы свет пасля зямнога існавання. Вечная музыка з вечнай ідэяй.

### Замежныя зоркі

Знакаміты «кароль саксафона», трохразовы ўладальнік прэміі *Jazz Award* Дэніс Баптыст і трыа джазавай філармоніі Давіда Галашчокіна з Піцера 28 красавіка ў сталіцы. Музыкантаў можна будзе пачуць у Палацы культуры прафсаюзаў. Шэдэўры сусветнага джаза і захапляльныя імправізацыі — за адзін вечар.

### Інструментальнае трыа

Фартэпіяннае трыа «*Nouvelle Philharmonie*» ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі выступіць 28 красавіка. Таленавітыя беларускія музыканты, лаўрэаты прэстыжных конкурсаў — скрыпач Арцём Шышкоў, віяланчэліст Дзмітрый Цыпкін, піяніст Сяргей Смірноў — музычнай мовай распавядуць некалькі гісторый. У Вялікай канцэртнай зале прагучаць вытанчаныя «Поры года» П. Чайкоўскага і А. П'яцолы, а таксама «Падарунак самому сабе на дзень нараджэння» П. Карманава.

### Беларускі андэграўнд

«Вынаходніца» ў кірунку арт-рок на нашай сцэне з драматычным гучаннем і пранікнёнымі тэкстамі *Naka* 28 красавіка выступае ў *TNT ROCK CLUB*. Уваход, між іншым, вольны. Гарадскі раманс, адсылкі да старой рок-школы і па-жаночаму экспрэсіўны драйв. Песні будуць і на рускай, і на беларускай мовах.

### Брэсцкая класіка

Канцэрт лаўрэата міжнародных конкурсаў Вольгі Старавойтавай пройдзе ў гэтую суботу, 23 красавіка, у Брэсцкай абласной філармоніі пад дэвізам «Ад класікі да джаза». У выступе бяруць удзел таксама піяніст Дзмітрый Блізнік і майстар гульні на домры Аляксандр Мельячэнка. Абодва — студэнты Магілёўскага філіяла Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, дзе, дарэчы, выкладае і сама Вольга Старавойтава. У праграме творы Л. ван Бетховена, Ф. Ліста, П. Чайкоўскага, Н. Метнера, А. Белашэўскі і інш.

**Падрыхтавала Марыя ВОЙЦІК**

# Энергія жыцця

## Людзі пасля Чарнобыля — у работах айчынных фотамастакоў



**Работы сучасных фатографаў, якія на працягу доўгага часу сачылі за жыццём людзей у Брагінскім рэгёне, прадстаўлены на фотавыстаўцы «Энергія жыцця. Чарнобыль. 30 год» у мастацкай галерэі «Універсітэт культуры». Сёння фотамастакі прапаноўваюць гледачам зазірнуць у душу людзям, якія сутыкнуліся з цяжкасцямі чарнобыльскага перыяду.**

Большасць работ у экспазіцыі зроблены беларускім фотамастаком Сямёнам Шаўцовым, які на працягу дзесяці год наведвае Брагінскі раён. Аўтар — прыхільнік сацыяльнай фатаграфіі. Яму падабаецца раскрываць вобразы простых, шчырых людзей, заглядваць ім у душу, не даючы магчымасці схаваць што-небудзь патаемнае. Здаецца, людзі агаленыя ў пачуццях.

Фотапраект «Энергія жыцця. Чарнобыль. 30 год» мастак успрымае паасабліваму. Гэта адзін з самых важных і блізкіх яго праектаў: разам з грамадскай арганізацыяй «Беларускі зялёны крыж» ён актыўна дапамагае пераадольваць наступствы аварыі. Сямён Шаўцоў адзначае, што недахопаў у сацыяльным асяроддзі Брагінскага рэгёна хапае, але, абстрагуючыся ад перашкод, людзі імкнуцца зберагчы кожнае імгненне. Яны разумеюць цану спакою.

Нягледзячы на шматлікія нявырашаныя пытанні, звязаныя з развіццём і дзейнасцю раёна, экспазіцыя ўвабрала ў сябе мноства пазітыўных момантаў. Першае, што кідаецца ў вочы, — маленькія дзеткі, якія шчыра радуюцца з'яўленню першых вясновых кветак, з задавальненнем катаюцца на санках, савецкіх роварах. Малыя атрымліваюць асалоду ад увагі і з цікавасцю ўспрымаюць навакольныя працэсы. На фотаздымках Сямёна Шаўцова вы не ўбачыце ў руках малых гаджэты, якія сталі звыклай з'явай для сучаснага свету, і абыякавыя вочы. Тут сапраўдныя эмоцыі: дабрыня, здзіўленне, цікаўнасць.



«Дзеткі на фотаздымках у асноўным з небагатых сем'яў, дзе іх выхоўваецца некалькі, — расказаў карэспандэнту «ЛіМа» Сямён Шаўцоў. — Але я ўпэўнены, што нават у такой сітуацыі яны насамрэч шчаслівыя. Канечне, можа падацца, што гэта парадокс, бо ў іх няма модных лялек, канструктараў. Звычайныя прадметы гэтыя дзеці выкарыстоўваюць як цацкі. Яны з маленства разумеюць, наколькі важна берагчы тое, што ёсць».

Добрыя стасункі людзей таксама знайшлі адлюстраванне на фотаздымках аўтараў. Абсалютна простыя, спакойныя жыхары Брагіна сустракаюцца на вуліцах, сядзяць на лаўках і аб нечым размаўляюць. Тут, у адрозненні ад здымкаў з дзеткамі, у позірку дарослых заўважны сум і пэўная стомленасць. Вінаваціць іх у гэтым нельга: прайшлі складаны шлях. Яны бачылі ўсё з пачатку, вытрымалі многія наступствы постчарнобыльскага перыяду і, адкінуўшы выпрабаванні, засталіся жыць і выхоўваць дзяцей на пацярпелай тэрыторыі.

Традыцыйная сувязь з зямлёй, добрыя адносіны да прыроды і навакольля перададзены ў работах фотамастакоў. Аўтары імкнуцца паказаць усе бакі сацыяльнага існавання рэгёна, закрануць гледача яго асаблівасцямі. І гэта атрымліваецца. Фотаздымкі — нібы старонкі кнігі: адзін за адным перагортваюцца ў свядомасці, занатоўваючы шчырыя партрэты і кранальныя сюжэты.

Выстаўка «Энергія жыцця. Чарнобыль. 30 год» арганізавана грамадскай арганізацыяй «Беларускі зялёны крыж», якая на працягу чатырох год рэалізуе міжнародны праект тэхнічнай дапамогі «Развіццё патэнцыялу сеткі сямейных клубаў у Чарнобыльскай зоне з мэтай паляпшэння сацыяльна-эканамічнай сітуацыі».

**Вікторыя АСКЕРА**

## Культурны ракурс



Жыхары Бабруйска атрымалі ў 2006 годзе цудоўны падарунак. З нагоды фестывалю «Дажынкі» ў горадзе ўсталявалі скульптуру бабра, якая важыць больш за 300 кілаграм! Яна з'явілася на самай ажыўленай вуліцы Бабруйска, блізу ўваходу ў цэнтральны рынак. Бронзавы бабёр выгляд мае трохі каларытны, і ў той жа час шляхетны (як жартуюць мясцовыя жыхары, прыкладна так павінен выглядаць сярэднестатыстычны бабруйчанін). Невядома адкуль з'явілася прымета: кожны, хто дакранецца да ланцужка бабра, абавязкова здабудзе багацце і поспех.

Помнік бабру — сапраўдная славутасць Беларусі. Наведаць Бабруйск, дакрануцца да гіганцкай жывёліны маюць на мэце многія турысты, якія вандруюць па краіне. Сімвал горада вядомы многім турыстычным агенцтвам, таму практычна кожная паездка ў Бабруйск, няхай нават з суседняга горада, не праходзіць без «сустрэчы» з бабром.

**Віялета СОБАЛЕВА**

*Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас* ***lim_new@mail.ru*** *з пазнакай* ***«Культурны ракурс»*** *— лепшыя будуць апублікаваныя на старонках газеты!*

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфавацца каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа даслаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічвацца не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*

ЛіМ
Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК

Рэдакцыйная калегія:
Анатоль Акушэвіч
Лілія Ананіч
Алесь Бадак
Дзяніс Барсукоў
Віктар Гардзей
Уладзімір Гніламёдаў
Вольга Дадзіёмава
Уладзімір Дуктаў
Анатоль Казлоў
Алесь Карлюкевіч
Анатоль Крэйдзіч
Віктар Кураш
Алесь Марціновіч
Мікалай Чаргінец
Іван Чарота
Іван Штэйнер

Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 21.04.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1748.

Кошт у розніцу — 4100 рублёў

Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 1374

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы прымаюцца толькі ў электронным выглядзе, не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца. Аўтары паведамляюць прозвішча, імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, месца працы, адрас з індэксам. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі аўтараў публікацый.

© Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, 2016
© ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», 2016
© Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"», 2016

ISSN 0024-4686